
Віншуем Дарафея Фіёніка ➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


а. Леанід Янкоўскі ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3052) Год LIX | Беласток, 9 лістапада 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# САМАЎРАДАВЫЯ ВЫБАРЫ 2014 — БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Калі ў канцы кастрычніка ехаў я з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі, па дарозе не заўважыў выбарчых плакатаў. Па вёсках часта расклейваюць іх у апошні перыяд перад самаўрадавымі выбарамі, якія сёлета назначаны на 16 лістапада. Затое ў самім Бельску-Падляшскім інфармацыйныя стэнды поўнасцю заклееены плакатамі кандыдатаў на бургамістра горада ды павятовых і ваяводскіх радных. Ахвотныя стаць раднымі горада Бельска-Падляшскага будуць змагацца ў 21 акрузе, а не ў некалькіх гарадскіх акругах як гэта было раней. А над важнейшымі бельскімі дарогамі віднелі выбарчыя расцяжкі кандыдатаў на ваяводскіх радных і бургамістра.**


■ Дзеячы і заадно кандыдаты «КВВ Бельская кааліцыя». Злева: выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, бельскі віцэ-староста Пётр Божка і намеснік старшыні Рады Бельскага павета Васіль Ляшчынскі

### Ажно 6 кандыдатаў на пасаду бургамістра

За пасаду бургамістра Бельска-Падляшскага будзе змагацца 6 кандыдатаў, а ў гонках у дэпутаты гарадской рады, якую складуць 21 радны, удзельнічаюць 125 кандыдатаў. Гэта робіць Бельск адметным у маштабе ваяводства. У горадзе відаць вялікую актыўнасць грамадства, бо на 7 выбарчых камітэтаў, ад якіх кандыдаты хочуць стаць гарадскімі раднымі, толькі два гэта агульнапольскія выбарчыя камітэты, створаныя палітычнымі партыямі. Астатнія камітэты былі заснаваны дзякуючы актыўнасці мясцовага грамадства. За пасаду бургамістра горада пазмагаюцца выконваючы абавязкі бургамістра Бельска Яраслаў Бароўскі (42-гадовы жыхар Бельска, ад камітэта «КВВ Бельская кааліцыя»), Юзаф Ежы Гас (62-гадовы жыхар Бельска, ад «КВВ Кааліцыя Самаўрадавая еднасць»), Валянцін Карыцкі (51-гадовы жыхар падбельскіх Праневічаў, ад «КВВ Валянціна Карыцкага»), Рамуальд Марганскі (54-гадовы жыхар Бельска, ад «КВВ Нашае Падляшша»), Ян Радкевіч (57-гадовы жыхар Бельска, ад «КВ Права і справядлівасць») і Анатоль Васілюк (47-гадовы жыхар Бельска, ад «ККВ СЛД Лявіца супольна»).

У Бельскім павеце за мандаты 17 павятовых радных змагаюцца кандыдаты ад 6 выбарчых камітэтаў, разам 186 чалавек. Гэта прадстаўнікі ад «КВ ПСЛ», «КВ Права і справядлівасць», «ККВ СЛД Лявіца супольна», «КВВ Нашае Падляшша», «КВВ Кааліцыя Самаўрадавая еднасць» і «КВВ Бельская кааліцыя». У Бельскім павеце беларусы кампактна і ў вялікай колькасці пражываюць у горадзе Бельску-Падляшскім, Арлянскай і Бельскай гмінах, таму я пацікавіўся кандыдатамі на войтаў згаданых гмін. У Арлянскай гміне ёсць трох кандыдатаў на войта: Міхал Гурскі, 58-гадовы жыхар Бельска-Падляшскага (ад «ККВ СЛД Лявіца супольна»), Славамір Сахарэвіч, 52-гадовы жыхар Орлі (ад «КВ ПСЛ») і цяперашні войт Пётр Сэльвесюк, 38-гадовы жыхар Бельска-Падляшскага (ад «КВВ Бельская кааліцыя»). У Бельскай гміне таксама трох кандыдатаў на пасаду войта: Міраслаў Якубюк, 54-гадовы жыхар Бельска-Падляшскага (ад «ККВ СЛД Лявіца супольна»), цяперашняя войт Раіса Раецкая, 54-гадовая жыхарка Бельска-Падляшскага (ад «КВВ Нашае Падляшша») і Ваўжынец Казімеж Віхроўскі, 35-гадовы жыхар Бельска-Падляшскага (ад «КВ ПСЛ»). Можна яшчэ адзначыць, што войт Бельскай гміны Раіса Раецкая на папярэдніх выбарах змагалася за пасаду войта ад выбарчага камітэта ПСЛ, а яшчэ раней — ад выбарчага камітэта СЛД і іх саюзнікаў.

### Ад БВК да «Бельскай кааліцыі»

Мясцовыя беларусы стварылі ў Бельску Беларускі выбарчы камітэт перад самаўрадавымі выбарамі ў 1990 годзе. Яго старшынёй стаў тадышні дырэктар бельскай «тройкі» Васіль Ляшчынскі, які заангажаваны ў самаўрадавую дзейнасць па сённяшні дзень.

— З людзей, якія стваралі Беларускі выбарчы камітэт і пайшлі на першыя самаўрадавыя выбары ў 1990 годзе, надалей дзейнічае Аляксандр Божка, а да нядаўна Сяргей Лукашук. Тады таксама вялікую працу зрабілі маладыя дзеячы, якія намагаліся давесці ідэі БВК да жыхароў нашага горада: Андрэй Сцепанюк, які пасля стаў бургамістрам Бельска, Славамір Іванюк, Мікола Ваўранюк, — пачаў успамінаць Васіль Ляшчынскі, віцэ-старшыня Рады Бельскага павета. — Перад самаўрадавымі выбарамі ў 1994 годзе мы — прадстаўнікі БВК разам з мясцовымі прадстаўнікамі партый Сацыял-дэмакратыя РП і Унія працы ды Саюза ўкраінцаў Падляшша стварылі выбарчы камітэт «Бельская кааліцыя». Пачынаючы з 1994 года, ажно па сённяшні час мы ішлі на выбары пад шыльдай «Бельскай кааліцыі». У 2002 годзе асобна ад нас на выбары пайшлі мясцовыя прыхільнікі Саюза левых дэмакратаў, а пасля адлучыліся ад нас прадстаўнікі Саюза ўкраінцаў Падляшша. Перад сёлетнімі самаўрадавымі выбарамі да «Бельскай кааліцыі» вярнуліся прадстаўнікі Саюза ўкраінцаў Падляшша і зараз яны балацiруюцца на спісках кандыдатаў на радных ад «КВВ Бельская кааліцыя». Многія гады я старшынстваваў «Бельскай кааліцыі», але гэтую працу аддаў малодшым і цяпер нашым старшынёй з'яўляецца віцэ-староста Пётр Божка.

Кандыдаты ад «КВВ Бельская Кааліцыя» зараз змагаюцца за пасады бургамістра Бельска-Падляшскага (Яраслаў Бароўскі) і войта Арлянскай гміны (Пётр Сэльвесюк). Беларусы ўзначальваюць спіскі кандыдатаў ад «КВВ Бельская Кааліцыя» на павятовых радных Бельскага павета ва ўсіх трох акругах: Пётр Божка і Васіль Ляшчынскі — акруга ў горадзе Бельск-Падляшскі, Пётр Сэльвесюк — акруга з Арлянскай гмінай і старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік — акруга з Бельскай гмінай.

— Аб'яднанне «Бельская кааліцыя», якое стваралі дзеячы Беларускага выбарчага камітэта, зарэгістраванае як арганізацыя, пра якую можна даведацца на сайце www.koalicjabielska.org. Наш «Камітэт выбарчы выбаршчыкаў Бельская кааліцыя» састаўляюць Аб'яднанне «Бельская кааліцыя», Павятовая ўправа БГКТ у Бельску-Падляшскім, Саюз украінцаў Падляшша і дзеячы Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты», Аб'яднання сімпатыкаў Хору песні і танца «Васілёчкі» і іншых арганізацый. Наш «КВВ Бельская кааліцыя» падтрымлівае таксама падляшскі ваявода Мацей Жыўна, — сказаў бельскі віцэ-староста і заадно старшыня Аб'яднання «Бельская кааліцыя» Пётр Божка. — У «Бельскай кааліцыі» 20-гадовы самаўрадавы вопыт. Мы ведаем як арганізаваць самаўрадавую дзейнасць і прыцягваць сродкі на інвестыцыі ў павеце. Нашыя бургамістр, войт, гмінныя і павятовыя радныя актыўна і паспяхова працуюць у карысць рэгіёна. За самы вялікі поспех у нашым павеце лічу інвестыцыю групы IKEA, вартасцю ў 600 мільёнаў злотых. Вельмі важнае для «Бельскай кааліцыі» паспяховае сумеснае кіраванне паветам у духу талерантнасці і супрацоўніцтва.

У 1999-2014 гадах у Бельскім павеце было выкананых многа інвестыцый у галіне дарожнага будаўніцтва, аховы здароўя, асветы, сацыяльнай апекі і ў іншых сферах.

— Мы будуем Бельск-Падляшскі адкрыты на людзей, бяспечны, з новай інфраструктурай. Слухаем прапаноў гараджан і кансультуемся з імі. Відаць, што жыхары горада адчуваюць патрэбу асабіста рашаць аб справах свайго горада, бо ў справе грамадзянскага бюджэту прагаласавала 2650 асоб, прытым без дапамогі інтэрнету. Бяльшчане прад'явілі 23 праекты выдаткавання сродкаў з грамадзянскага бюджэту, што сведчыць аб вялікай грамадзянскай адказнасці гараджан, — сказаў выконваючы ад амаль года абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, кандыдат на бургамістра, які з 2010 горада быў гарадскім радным.

— Самыя важныя мае прапановы для Арлянскай гміны гэта будова непадалёк ад Орлі залівa і Цэнтра культуры ў Орлі, — дабавіў правячы з 2006 года Арлянскай гмінай войт Пётр Сэльвесюк, кандыдат ад «КВВ Бельская кааліцыя» на войта гэтай гміны.

У Арлянскай гміне пры знаходжанні на пасадзе войта Пятра Сэльвесюка былі ўстаноўлены дошкі і ўказальнікі з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах.

— «Бельская кааліцыя» робіць стаўку на развіццё адукацыі на беларускай мове ў Бельскім белліцэі і Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Плануем надалей развіваць беларускую культуру, арганізаваць нашыя пастаянныя беларускія мерапрыемствы і ладзіць новыя. Да нашага самага вялікага беларускага мерапрыемства «Спасаўскія запусты» можна было б дабавіць іншыя прапановы, напрыклад у галіне беларускай літаратуры ці беларускага мастацтва, — сказаў былы дырэктар бельскай «тройкі», кандыдат на павятовага раднага Васіль Ляшчынскі.

— Мы зацікаўлены міжнародным супрацоўніцтвам з Беларуссю ў справе развіцця ў нашым горадзе беларускай культуры. Запрашаем да нас беларускія калектывы, а ў супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь прадбачваем арганізаваць у Бельскім доме культуры невялікую бібліятэку з беларускімі кніжкамі і прэсай, — сказаў выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# „Тунеядцы” і дармаеды

А я дык нават узрадаваўся, калі даведаўся, што наша краіна абвясціла новы этап барацьбы з чарговай катэгорыяй сваіх грамадзян. На гэты раз бой распачаты з дармаедамі, ці як іх называюць самі змагары з гэтай з’явай — з „тунеядцамі”.

Тут відавочна чарговае непаразуменне ў глыбінным значэнні слоў, звязанае ўсё з тым жа двухмоўем. Бо калі заканадаўцы, сённяшнія беларускія рускамоўныя парламентарыі, статус якіх ставіць пад сумнеў уся тая частка планеты, якая сапраўды мае даўнішнія традыцыі парламентарызму, ужываюць паняцце „тунеядзец”, яны аніяк не адносяць яго да сябе любімых, бо афіцыйна яны нібыта маюць легальнае месца працы і заробку. А вось карысць яны прыносяць свайму народу на гэтым месцы, ці шкоду, гэта ўжо справа на іх думку дзясятая.

„Тунеядцамі” яны лічаць не сябе, а тую частку сваіх суайчыннікаў, якія гарбацяць на свае сем’і там, дзе могуць знайсці большменш прыстойны заробак, не ўблытваючы сваё сумленне ў фальш і падман выбарчых кампаній. І тут нашым законнікам вельмі спатрэбілася іх любае двухмоўе, ці калі быць больш дакладным, то поўнае выцясненне беларускай мовы з законатворчага працэсу. Бо на беларускую мову слова „тунеядзец” перакладаецца як дармаед. А ці можна назваць дармаедам чалавека, які ўвесь час цяжка працуе на свой хлеб, корміць і апранае свае сем’і, дапамагае выжыць сваім блізкім? А вось „тунеядцам” можна. Корміш сям’ю ці не, а не маеш, афіцыйнай паводле закону і прыгоннай па паняцці, працы, то ты ўжо і „тунеядзец”.

Праўда, пастараўшыся, можна развагі павярнуць так, што пад паняцце „дармаед” хіба што больш падпадаюць акурат тыя, хто седзячы ў цёплых парламенцкіх крэслах і атрымліваючы някепскія дзяржаўныя заробкі так і не змаглі прыдумаць што-небудзь больш-менш дзеючае для папаўнення бюджэту, акрамя барацьбы з „тунеядствам”. А яшчэ ў дармаеды можна было б залічыць і тых гора-эканамістаў з міністэрскімі заробкамі, хто такія ідэі падкідвае выканаўчай уладзе, распісваючыся тым самым у сваім бяссіллі і канстатуючы наглядна факт, што ў іх галовах надышоў крызіс хоць якіх-небудзь адэкватных ідэй. Але хто з іх нашы развражанні бярэ да ўвагі.

Затое ў апазіцыі нарэшце з’явіцца мажлівасць пагаварыць са сваім народам. Ура, віват і яшчэ раз ура! А то як хадзілі апазіцыянеры па хатах, тлумачылі важнасць наведаць выбарчыя ўчасткі і пракантраляваць справядлівасць выбараў, то некаторыя іх суайчыннікі, грузячы свае машыны кантрабандай ці збіраючыся на будоўлю за мяжу, казалі, што ім грошы зарабляць трэба. І што яны не збіраюцца губляць свой час, каб не толькі на выбары хадзіць, але і слухаць апазіцыйных агітатараў. Вось цяпер паслухаць прыйдзецца, бо пад паняцце „тунеядцы” патрапяць і тыя, і другія. І сядзець хіба што будуць у адной камеры. Ура яшчэ раз. Нарэшце апазіцыя з народам.

Ну а доўгімі зімнімі начамі апазіцыянеры нарэшце атрымаюць мажлівасць распавесці сваім суайчыннікам, якім чынам тыя сталі „тунеядцамі”. І ў чым розніца паміж „тунеядцам” і дармаедам. І пра тое, што на зароблены за мяжой грошы, нашы „тунеядцы” далі сваёй краіне значна больш прыбытак, чым тыя, хто іх арыштоўваў, судзіў і саджаў. Бо будавалі на тыя грошы хаты сваім дзеткам, куплялі беларускі цэмент і цэглу, плацілі страшэнныя кошты ў казну за растармožку замежных машын, набывалі для сваіх дзетак у беларускіх крамах хлеб, яйкі, малако, а бывала і мяса. А для сябе і акцызную гарэлачку, каб, седзячы за кілішкам з такім жа працавітым, але мала актыўным у палітычным плане сябруком, зацягнуцца зноў жа акцызнай і звышпрыбытковай для беларускага бюджэту цыгарэтай, паразважаць пра свой гаротны лёс ды параіцца, куды яшчэ можна рвануць на годзік-паўтара, каб, не бачачы свету белага, папрацаваць сваім мазалём ды зарабіць яшчэ крыху. Зарабіць, каб зноў аддаць тыя грошыкі ў беларускі дзяржаўны ўніверсітэт за вучобу любай дачушкі ці сына. Каб тыя ў людзі выбіліся. Ці хаця б каб сталі такімі ж „тунеядцамі” як бацька. Але не дай Божа не такімі, як тыя, па чыёй міласці яны нікім іншым, акрамя як „тунеядцамі”, стаць не могуць.

Віктар САЗОНАЎ

# Уваскрэшванне «Кракадзіла»



Я стаўлю сумку з кракадзілавай скуркі ад Версачэ супраць аблезлага бабровага каўняра, што патрыятычнае ўзмацненне беларусаў, пра якое ў апошні час паведамлялі даследчыкі беларускай грамадскай думкі з даследчага інстытута НІСЭПД, мае прамую сувязь з інфармацыяй, паступаючай ад Расіі, што дэфіцыт свініны на ўнутраным рынку будзе дапоўнены імпартам кракадзілавага мяса. І так адразу паявілíўся сяроді іх адсотак тых, хто заявіў аб сваёй гатоўнасці абараняць сваю краіну ў выпадку нападу Расіі. Сёння ён дасягнуў узроўню 26 працэнтаў. А яшчэ ў чэрвені гэтага года аналагічнае вызначэнне праяўляла толькі 14 адсоткаў рэспандэнтаў. Тое ж даследаванне НІСЭПД паказала, што ўпаў (з 47 да 40 працэнтаў) адсотак людзей, якія кажуць, што ў выпадку расійскай агрэсіі пастараліся б адаптавацца да акупацыі, а таксама тых, хто быў бы рады далучыць Беларусь або частку Беларусі да Расіі (з 16 да 13 працэнтаў).

Яшчэ невядома, як будуць рэагаваць на кракадзілавую рэвалюцыю самі расіяне. Магчыма, так рассмакуюцца ў кракадзіліне, што яна стане іх нацыянальнай стравай. Магчыма таксама, што з-за любові да беларускіх братоў схочуць падзяліцца з імі гэтым экзатычным далікатэсам. Даследаванні НІСЭПД паказваюць, аднак, што не вельмі пасмакуе тое беларускім грамадзянам. Так што не трэба сумнявацца, што яны будуць абараняць сваё традыцыйнае меню не менш чым польскія каталікі Ясную Гуру. Зусім нядаўна, некалькі месяцаў таму, калі наступіў у іх краіне дэфіцыт свініны і ўрад спрабаваў падштурхнуць іх на талеркі родную бабровіну, амаль не дайшло там да нацыянальнага паўстання. У абарону адбіўнога ў капусце ці свіной рулькі ў піве зварухнуліся ўсе грамадзяне, у тым ліку паліцэйскія і супрацоўнікі службаў бяспекі. Аказалася з гэтай нагоды, што праслаўтае цярпенне беларусаў мае свае межы. Не дазволілі сябе перааддолець бабром, тым больш выступяць супраць акупацыі кракадзіла.

З гэтым кракадзілам пацешная гісторыя. Ужо раз з’явіўся ён на тэрыторыі былога СССР у выглядзе сатырычнага часопіса, які называўся «Кракадзіл». Кусаў ён як мог глупства тагачасных улад. Праўда, што толькі мясцовых улад, дзесьці ў савецкай глыбінцы, але затое тым больш балюча, чым яны былі ніжэй усталяваныя ў партыйнай іерархіі. Увогуле, ён, «Кракадзіл», мог не так шмат, але пашчэнкай злосна ляскаў жа да канца савецкага малоха. Вядома, ляскаў у той меры, як было яму дазволена ляскаць. І наколькі ён не баяўся ляскаць. І гэтага было дастаткова, каб пасмяяцца трохі ў гэты змрочны час.

Таму смяяліся так рускія, як і беларусы... але не рагатліва, гучна. Смяяліся, асцярожна, у адпаведнасці з драматычным прынцыпам — на баку або ў згорнуты кулак. Таму што рэаліі тагачаснай сацыяльнай сістэмы, заснаваныя на рыторыцы балбатні і партыйнай кланавасці, на першынстве ідэалагічна збаранелай грамады над незалежна настроенымі адзінкамі, дыктавалі захаванне гранічнай асцярожнасці. Вымецены з аднаго крэсла таварыш праз імгненне ўжо рассядаўся на іншым. І бываў ён — кракадзілаў вывадак — роўна пакланісты перад вышэйстаячым як пагардлівы да ніжэйшых ад яго; роўна памятаючы свае болькі, што заядлы ў дробнай вендэце; аднолькава пазбаўлены прынцыпаў, як і ідэалогіі. Адным словам — цынічная рэптылія. Гад. Так і смяяліся з яго больш праформа, хутчэй карыкатурна, для непазнакі крыўляючы пысы ў шкадобныя маскі. Дарэчы, многія з чытачоў «Кракадзіла» у памяць пра тое, што рыба гніе з галавы, з жахам глядзелі на маральную гніль у хвасце ўлады — сяроді мясцовых бонзаў і бачных правінцыялаў. А аб тым, што адбываецца ў самой яе галаве, не было сілы ні мужнасці нават падумаць. З распадам Савецкага Саюза знік з чытацкага рынку насмешлівы «Кракадзіл». Але як ні дзіўна, яго неметафарычнае нашчадства неяк матэрыялізуецца ў Расіі. Пакуль у форме рулета. Можна смяяцца ўволю з расіян, што самі дажыліся да такога. Але смех гусне ў горле, калі падумаеш, што нашэсце кракадзілаў можа рушыць у напрамку беларускіх сталоў. Брррр...

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Земляробы менеджарамі

Адна з дзесяці канферэнцый, якія праводзіліся па ўсёй краіне ў рамках Польскага сельскагаспадарчага кангрэса, адбылася 22 кастрычніка ў Беластоку. Мэтай яго арганізатары паставілі сабе «прадстаўленне найноўшых прагноз і эканамічнай інфармацыі, а таксама нарматыўных і практычных аспектаў, звязаных з сельскай гаспадаркай і сітуацыяй у сельскагаспадарчым сектары ў Польшчы, а таксама ў перапрацоўча-харчовай прамысловасці». «Падляшскае славіцца сваёй цудоўнай сельскай гаспадаркай. Але ў новай бюджэтнай перспектыве мы павінны навучыцца лепш выціскаць «брусельку», — сказаў былы прэм’ер-міністр і міністр эканомікі Вальдэмар Паўляк падчас адкрыцця беластоцкага выдання кангрэса, арганізаванага Фондам устойлівага развіцця сельскай гаспадаркі і аховы навакольнага асяроддзя, які праводзіўся пад патранажам м.інш. міністра сельскай гаспадаркі і старшыні Агенцтва сельскагаспадарчага рынку.

Амаль месяц раней праблемы сельскай гаспадаркі абмяркоўваліся ў Беластоку падчас першага Усходняга эканамічнага кангрэса, пра які «Ніва» шырока паведаміла.

— Па статыстыцы польская сельская гаспадарка не змянілася занадта ў апошнія гады. Колькасць фермерскіх гаспадарак знізілася ўсяго на паўмільёна. Прыкладна 1,4 млн. хатніх гаспадарак выкарыстоўваюць прамыя плацяжы, і палова гэтай групы гэта гаспадаркі да 5 га зямлі. Такім чынам, структура плошчы гаспадарак змянілася нязначна, — сказаў тады Марэк Загурскі, генеральны дырэктар Еўрапейскага фонду развіцця польскай вёскі.

Раман Ягелінскі, старшыня Групы вытворцаў садавіны «Роя», намеснік прэм’ерміністра і міністр сельскай гаспадаркі ў 1995-1997 гадах, у сваю чаргу, дадаў, што, нягледзячы на велізарныя і пазітыўныя змены, польскія садаводы яшчэ не з’яўляюцца раўнапраўным партнёрам для перапрацоўчай прамысловасці і гандлю. На яго думку, каб прыблізіць гэты працэс, трэба перамагчы польска-польскую канкурэнцыю, гуртавацца і стварыць кансорцыумы, напрыклад, груп вытворцаў.

Іншыя праблемы стаяць перад вытворцамі малака.

«Найбольшай падтрымкай для вытворцаў малака з’яўляецца добрая цана на іх прадукцыю. Аднак, насуперак таму, што многія гаспадары думаюць, цану малака не вызначае шэф малачарні, але рынак ды закон попыту і прапановы» — сказаў Эдвард Байко, старшыня Малочнага кааператыва «Спомлек». Ён прызнаў, што ў той час як вытворцы малака ведаюць як атрымаць добрую якасць сыравіны, дрэнна выглядае іх дасведчанасць аб вядзенні эфектыўнага бізнесу. Было адзначана, што фермеры павінны быць, перш за ўсё, менеджарамі свайго бізнесу. Як здалося ў ходзе дыскусіі, адказам на гэтыя патрэбы з’яўляюцца прадзюсерскія групы.

«Узніклі яны, паколькі прапанаваны ім былі прывабныя ўмовы іх стварэння. Цяпер палітыка Еўрапейскай камісіі адрэзала нас ад фінансавай падтрымкі пры стварэнні новых груп» — сцвярджаў Раман Ягелінскі.

У малочнай прамысловасці, аднак, сітуацыя выглядае крыху інакш.

«Групы вытворцаў малочных прадуктаў хочуць «падмануць» законы рынку. Нармальная практыка такая, што калі купляецца больш, можам чакаць больш нізкую цану. А малачарскія групы спрабуюць працісnуць адваротную палітыку. Чым больш кааператыў закупляе малака ў групы, тым вышэйшага кошту яна патрабуе. Гэта адбываецца таму, што малочныя заводы некалькі месяцаў таму рэзка шукалі сыравіну. Цяпер сітуацыя ў корані змянілася, — сказаў старшыня кааператыва «Спомлек». Прызнаў, што, нягледзячы на развіццё груп, яны яшчэ не паўнавартасныя партнёры для прадпрыемстваў рознічнага гандлю. І гэта па віне рынку: «Мая група супрацоўнічае з «Бядронкай» і моцна адчуваем з’яву дамінавання гэтай сеткі. Яна не хоча працаваць толькі з некалькімі надзейнымі пастаўшчыкамі прадуктаў аднастайнай якасці. Лепш ёй дыверсіфікаваць пастаўшчыкоў і дыктаваць свае ўмовы і кошты».

З іншага боку, па словах Марка Загурскага, каб у Польшчы ўзнікалі новыя групы вытворцаў, неабходным з’яўляецца «ўсведамленне патрэбы, якая павінна нарадзіцца ў сялян». Ён дадаў, што адзінай мэтай фарміравання новых груп не можа быць магчымасць атрымання датацыі і частковае вяртанне інвестыцый.

Я ўспамінаю ў «Вачах» аб сельскагаспадарчых праблемах, паколькі маю такое ўражанне, што ў перадвыбарчых самаўрадавых дзбатах гэтыя пытанні маргіналізуюцца падляшскімі кандыдатамі, а сельскі электарат быў зацікаўлены толькі абяцаннямі пабудовы новых дарог, ачышчальняў сцёкаў ці падключэннем да інтэрнэту за еўрасаюзныя грошы.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Зорка Венера ўзышла над ПЦК

**У асенні вечар (30.10.2014 г.) амаль усе дарогі вялі ў Праваслаўны цэнтр культуры, што па вуліцы святога Мікалая, за Мікалаеўскім саборам, у Беластоку. Другая частка беларусаў у тую ж часу гадзіну сустрэлася ў „Склепе з культурай" у Пачатковай школе № 4 на паказе фільма пра гаворкі беларусаў. Задумы не былі зверваны паміж арганізатарамі, і мусова было выбраць, часам адмаўляючыся ад чаканай сустрэчы з сябрамі, як было ў выпадку матушкі Галіны і доктар Ірэны, аднакласніц з Семяноўкі. Беларускія імпрэзы ў Беластоку з'яўляюцца таксама нагодай да кампанейскага спаткання, калі няма адмысловага беларускага культурнага цэнтра ў Беластоку.**



Хор „Загадка" з Супрасля падрыхтаваў поўнасцю беларускую праграму: „Мой родны кут", „Зорка Венера"...

Сустрэчу з беларускімі аўтарамі сарганізавалі не першы раз у Беластоку Славамір Назарук разам з Люцыяй Німяровіч у Праваслаўным цэнтры культуры. Некалькі гадоў таму, пры багатым музычным аздабленні, выступалі беларускія паэты-мужчыны, у чэрвені беларускую паэзію перш за ўсё для малых беларусаў рэкамендавалі Віктар Швед, Міра Лукша і Валянціна Мядзведзь. Чарговая была пад лозунгам „Беларуская паэзія і проза", на якую запрошаны былі аўтары двух пакаленняў — празаічка Ганна Кандрацюк ды паэты Уладзімір Саўчук і Юрка Буйнюк. Чакала іх поўная зала, якая ў захапленні слухала трохгадзінную, багатую слоўна-музычную праграму, да косці перапоўненую беларускім духам.

Славамір Назарук: — Усіх сардэчна вітаю ад арганізатараў гэтай сустрэчы — гэта ПЦК, Брацтва Трох Свяціцеляў і Дзіцячы сад № 14 з беларускімі аддзеламі. Гэта не першая сустрэча з беларускай культурай, і думаю, што не апошняя. За мною хадзіла думка, каб зрабіць беларускі вечар у шырэйшым абсягу, з некалькімі паэтамі-героямі сустрэчы. Я займаюся таксама царкоўнай дзейнасцю, з'яўляюся старшынёю Брацтва Трох Свяціцеляў, дык мы тут часта сустракаемся. На Беласточчыне вельмі многа праваслаўных, а па нацыянальнасці яны беларусы. Я беларус, мая мама родам з Масева...

Прыбылі вядомыя ў твар слухачы, якія вельмі часта наведваюць перш за ўсё музычныя мерапрыемствы ў ПЦК, і чытачы, якія адмыслова выбраліся на сустрэчу з беларускай літаратурай і сапраўды каб пазнаёміцца з аўтарамі і іх творчасцю. Лідзія Дудзіч-Красінская родам з Тыневіч-Малых: „Я ж так хацела ўбачыць аўтарку Ганну Кандрацюк, якую я чула па радыё, пра яе творы, пошкі, вандроўкі! — і з прыемнасцю набыла кнігі яе аўтарства". Паэт Уладзімір Саўчук: „Такія сустрэчы для нас як для аўтараў даюць вельмі многа. Можам пазнаёміцца ў вочы з чытачамі, прачытаць ім свае тэксты... І як мы чуем, усе дарогі вялі сюды праз „Ніву", куды мы пасылалі свае тэксты, якая яднала нас як чытачоў і аўтараў, якая выхавала ды вывучыла нас ды гадуе новае пакаленне, незалежна ад таго, ці бачым сваю будучыню ў слове, і ў вершах, друкуецца багата і ў Беларусі, расказваючы пра сваю малую айчыну і радзіму сэрца і духу. Ён пакуль аўтар двух зборнікаў „Субота ў Малініках" (2004) і „Самота дажджу" (2009), ды ўмела і ўдухоўлена вядзе размову з чытачамі, асабліва з маладымі, якіх шмат паяўляецца на аўтарскіх сустрэчах. Ганна Кандрацюк-Свярубская нарадзілася ў 1965 годзе ў прыпушчанскай Катлоўцы, непадалёк Нарвы. Пачатковую школу закончыла ў Ласінцы. Пасля вучылася ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Штудзіравала ў Варшаўскім універсітэце на аддзяленні русістыкі і прыкладной лінгвістыкі. З 1993 года працуе журналісткай тыднёвіка „Ніва", дзе вядзе рубрыку для дзяцей і моладзі „Зорка". Дэбютавала ў „Ніве" ў 1989 г. вершамі. Аўтарка кніжкі пра забытага музыканта з Сакольшчыны Яна Тарасевіча — **„W stronę Tarasiewicza"** (Беласток 2002 г. і другое выданне ў 2004 г.). У 2006 г. паказаўся яе аўтарскі кампакт-дыск „Журылася Катэрына", на якім запісаны ў яе выкананні 13 старажытных песень з Падляшша. У 2007 г. выйшаў зборнік апавяданняў „Царская трызна", „Падарожжа з Анатолем С." — у 2009 г. і зборнік рэпартажаў **„Białoruś. Miłość i marazm"** у 2013 г. Апублікавала

у школе ці ў сур'ёзнай літаратуры".

Уладзімір Саўчук нарадзіўся ў 1956 годзе ў Кузаве на Падляшшы. Першыя словы па-беларуску напісаў у Пачатковай школе ў мястэчку Чаромха. Па прафесіі ён тэхнік-энергетык. Друкаваўся ў „Ніве" і калектыўным зборніку „Плыву морам майго жыцця". Жыве ў Беластоку. Сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Піша на польскай і беларускай мовах. Аўтар зборнікаў паэзіі „Што ў сэрцы" (1998), **„W gościnie" (2004)** і „Мой вырай" (2007). Юрка Буйнюк (1981 г. нар.), ва ўзросце Саўчуковых сыноў, выхаванец „Зоркі" і „Нівы", адзін з маладзейшых сяброў „Белавежы". Буйнюк умела вандруе ў інтэрнэтым сеціве, выкарыстоўваючы магчымасці друку і распаўсюджвання сваіх думак на блогу

ў „Ніве" больш за сотню літаратурных рэпартажаў з Падляшша, Беларусі, Украіны, Латвіі, Літвы, Малдовы, Славакіі, Канады. Яе творы перакладзены на польскую і англійскую мовы. Сустрэчу з Ганнай павяла Дыяна Нахіла, яе сяброўка ў вандроўках па свеце, польская ўкраінка (нар. у ваколіцах Яблачына), для якой сустрэча ў Беластоку з Гандзяй і яе сябрамі стала імпульсам для таго, каб адкрыць і свае карані, якая вывучыла беларускую мову і стала займацца перакладамі з беларускай мовы. Раскрыла яна перад чытачамі індывідуальнасць цікавай празаічкі і журналісткі і яе духовыя сцежкі па роднай беларушчыне і не толькі па ёй.

— Гандзя — асоба прозы, хаця душа ў яе паэтычная. Як ты адчувала сябе, выходзіўшы са сваёй Катлоўкі, што твая родная мова іншая чым польская? — пачала вядучая.

— Я вучылася ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, разам са мною было многа сяброў, і мы ўжо ведалі хто мы ёсць. Калі мы пайшлі ў Варшаву, мы не толькі не саромеліся беларускай мовы, але і стварылі беларускі студэнцкі рух... Вельмі цаню і мову, і дыялект, таму што ён мае вельмі старажытныя крыніцы... Трэба спадзявацца, што гэта мова будзе трываць. Дзякуючы таксама інтэрнэту. Калі мы ведаем нашу простую мову, без праблем можам паразумецца не толькі ў Беларусі, Расіі, Украіне, але можам дагаварыцца ў Славакіі, Сербіі, Чарнагорыі, Македоніі... Таксама і ў Польшчы, калі разгаворымся, і людзі прызнаюцца, што ўсё разумеюць, бо гэта ж славянская мова. Мне вельмі дзіўна, калі журналіст не ведае, дзе якаясь вёска, і як там гавораць, бо я туды дайшла на сваіх нагах. Яшчэ з маіх маладых гадоў, калі мы з сябрамі хадзілі на рэйды „Бацькаўшчына". Калі я стала працаваць у „Ніве", ведала ўжо ўсю нашу геаграфію, усё Падляшша.

— Я вельмі хваліюся, слухаючы спяванне беларускіх дзяцей і моладзі. Гэта такое нармальнае, што дзеці маюць магчымасць вывучэння, узрастання ў гэтай мове і развівання яе.

— Мы ў сэрцы маем той вобраз, які вынеслі з хаты. У Лондане мы ўбачылі ў Вестмінстэрскай кафедры ікону Божай Маці Адзігітрыі з аднаго боку, а з другога ікону Ісуса Хрыста. Мы вельмі тады ўсхваляваліся. Такая экуменія ў свеце дазваляе людзям думаць пра мір, прынамсі гуманістам, думаць, каб змагацца за мір і гэтыя каштоўнасці, каб людзі не баяліся за сваіх дзяцей, унукаў... Беларусы гэта таленавітыя мудрыя людзі, і трэба даацаніць тое што маем.

— Гэты год паказвае, што беларушчына гэта штосьці, што можа зацікавіць, што я ўбачыла ў час аўтарскіх сустрэч з табою ў Познані, і ў Польскім інстытуце міжнародных спраў, слухаючы перадачы ў агульнапольскім радыё, прысвечаныя тваёй кнізе пра Беларусь. Што было для цябе найбольшай неспадзяванкай у падарожжах, што для нас здаецца звычайным, відавочным, а што можа захапіць свет?

— Людзі заўсёды хацелі, каб я заспявала па-свойму, каб нешта сказала... Гэта вельмі добра, што настаўнікі вучаць не толькі мовы, але і песень, вершаў. Гэта ўніверсальны сродак. Скажу так: людзі ў свеце такія самыя, хопіць наладзіць такі людскі, сардэчны кантакт, — тады з кожным дагаварышся. І нават калі я была ў сітуацыях страшных, дзе была нават пагроза жыцця, удавалася мне дагаварыцца з людзьмі. Напэўна дапамагала мне таксама праваслаўе. Таму што яно мае ў сабе такую дабрыню, якая лагодзіць адносіны паміж людзьмі, адкрывае адных да другіх, умее згасіць варожасць... Там, дзе ёсць духовасць, там ёсць цуды... Калі гаворка пра тое, куды еду, куды едзем з маімі прыгожымі анёламі, — мы едзем з компасам у сэрцы. Мы не плануем, хочам адпачыць у чужым, часам экзатычным краявідзе, і нас заўсёды штосьці прывядзе ў духоўнае месца. Мне на ўсходзе падабаюцца манастыры, лаўры. Не падабаюцца мне такія экскурсіі як на Захадзе, дзе загадваюць хадзіць ад храма да храма, матаючы механічную статыстыку... Штораз менш такіх месцаў, дзе магу пагаварыць па-свойму, а для чалавека, які піша, думае і хоча гэта захаваць, вельмі важнае. Кажу гэта вам, матулям і бабулям дзяцей, каб вы гэтага пільнавалі, каб яны прадаўжалі сваю мову. Калі чалавек будзе ведаць, хто ён, будзе мець сваю тоеснасць, ён нідзе не згіне! Гэта толькі дапаможа прабіцца чалавеку ў свеце.



Дзеткі з беларускага садка № 14, які засноўвала і Ганна Кандрацюк



Вучні з ПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія: адчуць моц роднага слова



Злева: Дыяна Нахіла, Ганна Кандрацюк, Уладзімір Саўчук, Юрка Буйнюк

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



# Свята паміж пасевамі

**Ужо пятнаццаты раз былі прысуджаны ўзнагароды падляшскага маршалка ў галіне мастацкай творчасці, распаўсюджвання і захоўвання культуры. Сярод сёлетніх шасці пераможцаў быў Дарафей Фіёнік «за вялікі ўклад мастацкай, аматарскай і выдавецкай працы для малой радзімы — Бельскай зямлі, які ў спадчынным доме на прарадзіме ў Студзіводах (гістарычны прыгарад Бельска-Падляшскага) заснаваў Музей Малой айчыны».**

— Культура з'яўляецца адной з найбольш важных сфер жыцця нашага рэгіёна, тым, што ў нашым шматнацыянальным ваяводстве шчыра ганарымся, — прамаўляў падчас цырымоніі ўзнагароджвання маршалак Яраслаў Дважанскі.

На гала-канцэрт 30 кастрычніка ў палац Браніцкіх, у які бег чырвоны дыван і віталі гасцей мажарэткі пад музыку духавога аркестра Комплексу школ у Сухаволі, з'ехаў круг сяброў і знаёмых лаўрэата. Усе былі згодныя і паўтаралі: «Дарафей Фіёнік — чалавек добры, бескарысліва і поўнасцю аддадзены таму што робіць». Сярод іх быў і Тамаш Суліма, сакратар Беларускага саюза ў Польшчы, супрацоўнік Музея Малой айчыны:

— Дарафей Фіёнік пабудаваў мост паміж мінулым і будучыняй беларусаў, тое, што дасюль не ўдалося іншым беларускім арганізацыям. Тое, што ён робіць, датычыць жывой культуры, а, на жаль, часта бывае так, што беларускія арганізацыі дзейнічаюць у іншым свеце, чым самі беларусы. Дарафей паказвае, што можна інакш.

Дарафей Фіёнік (народжаны 14 жніўня 1968 г. у Бельску-Падляшскім) з'яўляецца этнографам, гісторыкам, аніматарам беларускай культуры на Падляшшы. Ён — выпускнік Сельскагаспадарчага тэхнікума і Вышэйшай праваслаўнай семінарыі ў Варшаве з сядзібай у манастыры св. Ануфрыя ў Яблачыне. Вывучаў таксама гісторыю і музеялогію. Пасля заканчэння семінарыі быў настаўнікам Закону Божага ў Бельску-Падляшскім і дзейнічаў у Брацтве праваслаўнай моладзі, ад імя якога праводзіў рэканструкцыю згарэлай падчас Другой сусветнай вайны званіцы XVIII ст. царквы ў Бельску-Падляшскім. У 1993 г. быў заснаваны Музей Малой айчыны ў Студзіводах (з 2000 года вядзе яго Згуртаванне Музей Малой айчыны), былой прыгараднай вёскі Бельска-Падляшскага. У музеі працуе музычны фальклорны гурт «Жэмэрва». Аматары фальклору з Польшчы, Беларусі і Літвы штогод збіраюцца ў Бельску-Падляшскім на імпрэзах, пачынаюць іх караганам па вуліцах падляшскіх вёсак: Градалёў, Алекшаў, Дубяжына, Казлоў, Раек і Гусакоў. Дарафей Фіёнік арганізуе штогадовы фестываль «Там по маёвуй росі» ў Бельску-Падляшскім і яго ваколіцах, а таксама «Олень по бору ходіт». У 2002-2010 гадах быў дэпутатам Гарадской рады Бельска. Вядзе гаспадарку. Жыве ў Студзіводах з жонкай Альжбетай і сынамі Максімам і Ілёй ды дачкой Таісай. З'яўляецца аўтарам і сааўтарам каля дваццаці кніг, у тым ліку серыі па гісторыі невялікіх мясцовасцей на Падляшшы (разам з а. Рыгорам Сасной, настаяцелем прыхода ў Рыбалах). З 1998 года ён — заснавальнік і галоўны рэдактар штоквартальніка «Бельскі Гостінэць». У 1994 г. быў адным са стваральнікаў Беларускага гістарычнага таварыства. Супрацоўнічае з перыядычнымі выданнямі «Ніва», «Przegląd Prawosławny» ды «Беларускі гістарычны зборнік». У 1996 годзе атрымаў адну з самых высокіх намінацый Конкурсу Фонды культуры «Малыя айчыны — традыцыя для будучыні» ў рамках праекта «Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа» (супольна з Югенам Вапам). У 2003 і 2005 гг. быў стыпендыятам маршалка Падляшскага ваяводства ў галіне распаўсюджвання і ахова культурных каштоўнасцей. У 2006 г. стаў лаўрэатам узнагароды імя Зыгмунта Глогера за аніматарскую і выдавецкую дзейнасць, ахову помнікаў і стварэнне Музея Малой айчыны. У 2010 г. саборам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы быў узнагароджаны ордэнам св. Марыі Магдаліны трэцяй ступені.

Пра сваю місію і, у прыватнасці, аб дзейнасці музея часта паўтараў: «Мы хочам аддаць даніну павагі нашым продкам».

Перш чым атрымаць прыз маршалка ў размове з «Ніваю» сказаў:

— Гэтая ўзнагарода нічога не зменіць. Далей я буду проста працаваць. Далей, мы будзем працягваць і развіваць тое, што мы пачалі шмат гадоў таму, пакуль хопіць жыцця. Гэта завяршэнне таго, што я зрабіў да гэтага часу і далейшы працяг таго, што я ствараю сам і ва ўсёй групе студзіводскага цэнтра. Гэтая цырымонія з'яўляецца такім святам паміж пасевамі. Прыходзяць у гэты свет людзі, у якіх ёсць патрэба ў ахвяраванні сябе іншым і да такіх, я думаю, хіба і я належу, але тыя, каму я аддаю сябе, і мне даюць свае сілы.

Пасля атрымання ўзнагароды (статуэтка, дыплом і восем тысяч злотых) сказаў:

— Ёсць час сяўбы і час жніва, час намаганняў і святкавання. Час святкавання прызначаны сёння для мяне і для маёй сям'і, для маіх сяброў, таму што я не адзін баец на гэтым полі. Я прымаю ўзнагароду ў юбілейны год, важны для Бельска і Студзівод. 450 гадоў таму ў Бельску адбыўся Вальны Вялікі Сойм. Гэта была адна з самых важных падзей у гісторыі нашага Падляшша. 500 гадоў таму Студзіводы былі заснаваны Іванам Сегеневічам, адным з самых выдатных фігур у гісторыі Падляшша XVI стагоддзя. Гэтая закваска, якую ён даў, жывая і дае сілы нам і нашым дзеянням для культуры.



■ Сям'я Фіёнікаў

Альжбета Фіёнік, жонка пераможцы, у кулуарах цырымоніі не хавала:

— Праўда ў тым, што ён у нашай супольнасці, сабранай вакол Студзівод, Бельска, Музея Малой айчыны — лідар, і мы, я як жонка ці Аня Фіёнік як кіраўнік «Жэмэрвы», толькі дапамагаем як жанчыны, якія заўсёды павінны ўключацца ў тое, што выдумляюць разумныя мужчыны. З аднаго боку, мы як можам стаім на баку Дарафея, з іншага боку мы цікавімся тым, што робіць гэты вельмі арыгінальны чалавек. Не скажу, каб лёгка было жыць з арыгінальным чалавекам, але, вядома, вельмі цікава. Кожны дзень у нас ёсць шмат працы, але, як відаць, ёсць яе плён, а таксама ўдзельнічаем у яго падзеле. Нам таксама прыемна, што Дарафея за тое, што ён робіць, цэняць.

Сказала пры нагодзе, успамінаючы пра дзяцей:

— Аб'ядналіся ўжо з усім, што робіць наша Таварыства, сталі быццам бы адным. З моманту нараджэння ўключаюцца ва ўсе фестывалі, выставы, выдаванне кніг. Часам нас падтрымліваюць, часам трохі турбуюць, але заўсёды ўдзельнічаюць ва ўсім. Яны не разумеюць як без гэтага, што мы робім, можна жыць.

Дарафея Фіёніка да прэміі заявіў выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі:

— Калі мы атрымалі інфармацыю, што можна заяўляць асобы і ініцыятывы да ўзнагарод у галіне культуры і грамадскіх дзеянняў да маршалка, першай прыйшла мне ў галаву асоба Дарафея Фіёніка, які на працягу многіх гадоў вядзе ў нас шэраг ініцыятыў, з флагманскай — Музей малой айчыны. А гэты музей — не толькі будынкі, але больш за ўсё падзеі. Ён ездзіць па вёсках, запісвае песні, якія ў хуткім часе будуць забытыя, а калі народ забудзе іх, дык будзе бяда, таму што народ, які забывае свае карані і традыцыі, перастае быць нацыяй. У час, калі асіміляцыя прагрэсуе вельмі хутка, што можам бачыць па перапісе — што беларусаў усё менш і менш, трэба прыняць меры, каб гэта прадухіліць. І тое, што робіць Дарафей Фіёнік выдатна ўпісваецца ў іх. Прымае ён шэраг ініцыятыў для нашай бельскай малой радзімы.

Сярод прысутных на ўрачыстасці быў кінадакументаліст Юры Каліна, рэжысёр узнагароджанага фільма «Сейбіт», які расказвае якраз пра Дарафея Фіёніка:

— Беларусы павінны быць яму ўдзячнымі ў асноўным за тое, што не забыўся, адкуль яны выводзяцца, адкуль наш род. Тое, што ён робіць, гэта значна больш, чым робяць усе цэнтры культуры разам, калі гаворка ідзе аб захаванні сваёй гістарычнай спадчыны, матэрыяльнай і духоўнай культуры падляшскай, беларускай вёскі. Я поўны захаплення гэтым чалавекам і таму зрабіў дакументальны фільм пра яго. Я спадзяюся, што хоць у малой ступені паспрыяў прасоўванню таго, што ён робіць. Я вельмі шчаслівы, што ён атрымаў узнагароду маршалка. Гэта доказ таму, што беларуская культура — неад'емная частка культуры рэгіёна. І добра, што так дзеецца, таму што мы жывем разам, працуем, і, цэлае шчасце, што гэта прыкмячаецца.

Лаўрэатаў узнагароды абраў з ліку дваццаці трох кандыдатаў спецыяльна прызначаны капітул з сямі асоб пад старшынствам паэта і дырэктара Падляшскай ксёнжніцы імя Лукаша Гурніцкага Яна Леанчука. Перад пачаткам цырымоніі ўзнагароджвання высокую ацэнку атрымаў Войцех Кавальчук з Падляшскага музея, які на працягу многіх гадоў дбае аб народную спадчыну Падляшша, не забываючы таксама ў сваіх праектах аб беларускім і літоўскім яе вымярэнні. Этнограф атрымаў бронзавы медаль «Gloria Artis», прызначаны міністрам культуры і нацыянальнай спадчыны. Урачыстасць аздобіў м.інш. калектыў «Жэмэрва», які з 2003 года прадстаўляе традыцыйны фальклор падляшскіх беларусаў.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



# 50 гадоў «Васілёчкам»

Сёлета мінае 50 гадоў дзейнасці Хору песні і танца «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага, які на працягу паўвека вельмі актыўна дзейнічае ў карысць беларускай культуры, расслаўляе беларускую песню ў Польшчы і па-за межамі краіны і спрычыняецца да ўмацавання беларускай нацыянальнай свядомасці мясцовага насельніцтва. Харысты найчасцей выводзяцца з нашых вёсак, але жывуць у Бельску-Падляшскім, дзе пры Бельскім доме культуры дзейнічае хор «Васілёчкі». Праз хор прайшло шмат спевакоў, якія выступілі больш за 1050 разоў. Зараз спявае і танцуе ў хоры 31 асоба, а лік спевакоў за 5 гадоў, ад апошняга юбілейнага святкавання, пабольшаў на 8 чалавек. Ад некалькіх гадоў амаль усе песні ў выкананні «Васілёчкаў» суправаджаюцца танцамі, што робіць хор моцна адметным з ліку беларускіх выканаўцаў на Падляшшы.

Беларускі хор стварыўся ў Бельску-Падляшскім восенню 1964 года па ініцыятыве тадышніх улад Беларускага грамадска-культурнага таварыства, аб чым памятае Уладзімір Весялоўскі, актыўны дзеяч БГКТ і плённы карэспандэнт нашага тыднёвіка «Ніва».

— Калі арганізаваўся хор, я жыў яшчэ ў Пасынках. Калі даведаўся аб ініцыятыве ад сваячкі, вельмі ўзрадаваўся. На першай рэпетыцыі было можа чалавек 15, а пасля колькасць харыстаў павялічылася. Толькі з нашых Пасынак запісалася ў хор 7 асоб. А жылі яны ў вёсцы і ў самім Бельску. Прывозіў я харыстаў са свайго сяла на рэпетыцыі на матацыкле. Нават па два разы абарочваў. А зімой мы пяшком хадзілі ў Бельск на спеўкі, — сказаў Уладзімір Весялоўскі, які выступае ў «Васілёчках» ад самага пачатку дзейнасці хору, з сямігадовым перапынкам, калі працаваў на будове атамнай электрастанцыі на Украіне. — Дзейнасць беларускага хору і спяванне беларускіх песень былі мне вельмі важнымі, бо мы падтрымлівалі ў нашым народзе беларускія традыцыі і культуру. Я тады прымаў удзел у дзейнасці БГКТ і быў актыўным карэспандэнтам «Нівы». Дасылаў тэксты ў «Ніву», а калі яны былі крытычнымі, падпісваў іх псеўданімам «Сусед». Будучы пісьманосцам, я ў сваёй акрузе за тыдзень прадаваў 240 экземпляраў «Нівы». Гэта быў адзін з самых лепшых паказчыкаў. Нават галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі прыязджаў да мяне ў хату з падзякай за маю дзейнасць у карысць беларускай справы. Выступы з нашым беларускім хорам, бо так яго ўсе з гордасцю называлі, стваралі пачуццё задавальнення, што можам адкрыта прапагандаваць беларускую культуру і з беларускімі песнямі даходзіць да народа.

Спачатку спевакі арганізавалі рэпетыцыі ў памяшканні Бельскага аддзела БГКТ, а пасля пачалі спатыкацца ў Бельскім доме культуры. Пры БДК «Васілёчкі» дзейнічаюць па сённяшні час. Першымі музычнымі кіраўнікамі бельскага хору былі Аляксандр Лукашук, Юры Шурбак, Міхась Артысевіч і Сцяпан Копа. Амаль 20 гадоў, пачынаючы з 1970 года, музычным кіраўніком «Васілёчкаў» быў Сяргей Лукашук, былы шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры. У 1973 годзе беларускі хор прыняў назву «Васілёчкі».

— У зборніку песень Куліковіча я ўбачыў твор «Васілёчкі — хабры» і падрыхтаваў яго да спеву на 4 галасы. Песня «Васілёчкі» спадабалася нам і стала назвай хору, — успамінаў Сяргей Лукашук, які перад тым, як стаў музычным кіраўніком хору, тры гады састаўляў музычны акампанемент харыстам. — У перыяд, калі я кіраваў хорам, інструментальны акампанемент састаўлялі музыканты, якія ігралі на акардэонах, флейце, кларнеце, гітары і бубне.

Пасля Сяргея Лукашука музычнымі кіраўнікамі «Васілёчкаў» былі Аліна Негярэвіч, Уладзімір Сахарчук і Мікола Мяжэнны. З 2007 года хорам кіруе Мікола Фадзін, які разам з Юркам Дэнісюком састаўляюць музычны акампанемент для спеву. Ад некалькіх гадоў амаль усе песні суправаджаюцца беларускімі танцамі ў харэаграфіі Людмілы Фадзінай. Мікола Фадзін, які таксама займаецца з «Арлянамі» і яго жонка Людміла жывуць у Гродне і ахвяраваліся прыязджаць на рэпетыцыі ў Бельск і на выступы дзеля падтрымкі беларускай культуры на Беласточчыне.

— Запісацца ў беларускі хор запрапанавала мне дачка, якая спявала ў белліцэйскім калектыве. Тады апекаваўся ім наш музычны кіраўнік Сяргей Лукашук. Зараз я найстарэйшая харыстка, бо мне больш за 80 гадоў. Ужо хацела адысці з хору, калі нашым дырыжорам быў яшчэ Мікола Мяжэнны, але ён адгаварыў мяне ад такога рашэння. Зараз, нягледзячы на хваробы, спяваючы жывецца лягчэй і весялей, а можа і даўжэй. Добра, што малодшыя ад нас хочуць спяваць і замяшчаюць найстарэйшых, то лягчэй будзе развівацца з хорам, — сказала Ірэна Астапчук, якая выступае ў бельскім хоры з 1978 года. — Спяваючы беларускія песні мы падтрымліваем родную культуру. Я ў хаце і па-за хатай не саромеюся, што я беларуска і гавару па-беларуску.

Арганізацыйным кіраўніком «Васілёчкаў» з 1991 года з'яўляецца Ніна Бялецкая, якая ў хоры выступае з 1987 года.

— Я раней хацела спяваць у «Васілёчках», але з-за сямейных абавязкаў было мала вольнага часу. Калі падгадавала дзяцей, стала рэалізаваць свае мары і далучылася да хору. У маёй сям'і многа спявалася і я любіла спяваць з дзяцінства. У хоры магу гэта рабіць у грамадзе. Мы прапагандуем сваю культуру, — сказала Ніна Бялецкая. — Нам, харыстам, хочацца выступаць на сцэне, а выезды — дадатковы атракцыён.

«Васілёчкі» многа разоў выступалі ў Рэспубліцы Беларусь — у Мінску, Віцебску, Гродне, Маладзечне і Смаргоні, а апошнімі гадамі некалькі разоў прэзентаваліся ў Гродне і на Гродзеншчыне, а таксама запісалі там кампакт-дыск.

— Наш музычны кіраўнік Мікола Фадзін падбірае нялёгкі рэпертуар. Амаль усе песні мы сталі суправаджаць танцамі і гэта складана сумясціць. Мы многа трэніруемся, каб спалучыць песню з адпаведным танцам. Аднак атмасфера ў хоры добрая і калі паяўляюцца складанасці, стараемся іх пераадольваць і ісці ўперад, — гаварыла Ніна Бялецкая. — У нас зараз два камплекты касцюмаў і хочам паступова пашыць у нас, на Беласточчыне, трэцця ўборы.

«Васілёчкі» першы раз выступілі падчас другога выпуску конкурсу «Беларуская песня» і з гэтага часу на чарговых конкурсах «Беларускай песні» займаюць прызавыя месцы. Хор часта выступаў на беларускіх фэстах і мерапрыемствах на Беласточчыне, а таксама прапагандаваў беларускую песню ў гарадах Польшчы. Харысты ганарацца таксама выступамі пры рэалізацыі фільмаў.

— Я ў «Васілёчках» выступаю з 1973 года. Раней я спявала ў школьным хоры ў Бельскім белліцэі, з якім займаўся таксама наш дырыжор Сяргей Лукашук. У нашай сям'і ўсе спявалі. Першым у хор запісаўся бацька, Уладзімір Талвінскі. Пасля мы з сястрой, Галенай Саковіч, уступілі ў «Васілёчкі». І мой муж, Мікола, таксама запісаўся і стаў спяваць з намі. Мы — аматары, без музычнай адукацыі, але многа трэніруемся і стараемся спяваць як найлепш. Атракцыёнам для нас, харыстаў, з'яўляюцца выступы на сцэне і выезды па Польшчы і за мяжу, у Беларусь, — сказала Веслава Лаўрыновіч.

Ніна Бялецкая дабавіла, што шмат гадоў у хоры выступаюць Мікола Іванчук, Марыя Краўчук, Надзея Нівінская, Ала Мінкевіч, Валянціна Календа, Барбара Андраюк, Васіль Іванюк, Славамір Саковіч і Міхал Мацяюк. Цяпер «Васілёчкі» спяваюць перш за ўсё апрацаваныя народныя песні і творы сучасных беларускіх кампазітараў. У рэпертуары бельскага хору ёсць таксама творы на польскай, расійскай і ўкраінскай мовах. Харысты ахвотна таксама выступалі з інсцэнізацыяй абрадаў — «Сваты», «Прыданне», «Пераржовіны», «Хрысціны», «Перапяліца», ці «Квашэнне капусты».

— Я вельмі люблю выступаць у інсцэнізацыі абрадаў. Я стараўся ўплесці нешта сваё, дадаткова, каб развесяліць публіку, — заявіў Уладзімір Весялоўскі.

За дзейнасць у карысць культуры «Васілёчкі» атрымалі залатую адзнаку «Заслужаны Беласточчыне», адзнаку «Заслужаны для культуры» і Бронзавы крыж заслугі, дыпломы і фінансавыя ўзнагароды ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны. Атрымлівалі таксама шматлікія ўзнагароды, у тым ліку ад бургаміістра Бельска-Падляшскага.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## У асеннім садзе

Восенню ў садах многа яблык і груш. Яблыкі і грушы здымаем тады, калі яны лёгка адрываюцца ад галінак, найлепш за 7 дзён ад іх цалкавітай спеласці. Спелымі называюць фрукты, насенне якіх мае цёмна-буры колер. Для зборкі яблык і груш неабходная лесвіца, нельга іх абтрасаць з дрэва. Нельга таксама іх моцна сціскаць пальцамі і круціць. Рэкамендуецца абхапіць яблык ці грушу кісцю правай рукі, вялікім пальцам націснуць на пладаножку, падарваць уверх. Пазногці на пальцах трэба каротка абрэзаць, каб не пашкодзіць пладам. Знятыя плады асцярожна пакласці ў кошыкі. З кошыкаў не высыпаюць яблык і груш, а перакладваюць рукамі. Асабліва асцярожнага догляду патрабуюць плады, прызначаныя для зімовага перахоўвання.

## Ці баяцца зуброў?

У Белавежскай пушчы многа зуброў. Турысты здалёк едуць, каб спаткацца вока ў вока з каралём пушчы. Як паводзіць сябе, калі неспадзявана сустрэнеш зубра? Зубры ў статку наогул палохаюцца чалавека і ўцякаюць ад яго. Баяцца яны, прыкладова, веласіпеднага званка і чалавечых гукаў. Як усе дзікія жывёлы, зубры бываюць небяспечнымі, калі ім пагражае небяспека. Рэкамендуецца: не падыходзіць да зубра менш чым 50 метраў; не карміць зуброў; не дражніцца з імі: не кідаць каменнем, галлём, петардамі; не цкаваць зуброў сабакамі. Упартымі бываюць адзінокія самцы, якія могуць пабароць чалавека. На ўпартых і агрэсіўных зуброў маюць спосабы працаўнікі Белавежскага парку. Яны, калі атрымаюць паведамленне, прыедуць і забяруць зубра ў цэнтр парку.

## Хрэн на здароўе

За святочным сталом не павінна бракаваць хрэну. У народнай медыцыне хрэн спажывалі пры лячэнні страўнікава-кішачнага тракту, як мачагонны і жаўцягонны сродак, а таксама супрацьболевы пры падагры і рэўматызме. Гавораць, што хрэн — антыракавы сродак. Хрэн пабуджае апетыт, паляпшае працу страўніка і кішак, стымулюе сэрца. Яго ўжываюць пры запаленні рота, горла, ангіне, пры лячэнні печані і малакроўі, пры гастрытах з паніжанай кіслотнасцю. Хрэн дапамагае тым, хто цяжка фізічна праце. Кашкай з хрэну націраюць хворае месца пры радыкуліце, нарывах, ранах, запаленнях вушэй. Пры схільнасці арганізму да кровацячэння эфектыўна выкарыстоўваюць настойку хрэну на піве і віне.

Хрэн павінен часта гасціваць на нашым стале!

## Хатняе віно

Няцяжка зрабіць хатняе віно. Для гэтага патрэбны ягады, садавіна, цукар. Працэс нарыхтоўкі віна складваецца з трох этапаў.

Нарыхтоўка закваскі. Назбіраць або купіць спелых ягад. Ягад не мыць, бо на іх паверхнасці знаходзіцца налёт вінных дражджэй. 2 шклянкі ягад расціснуць, дадаць 1/2 шклянкі цукру і 1 шклянку вады. Сумесь пераліць у банку, каб была яна запоўнена на 2/3, патрасці. Горлачка закрыць коркам, паставіць у цёплае месца пры тэмпературы 22-24 градусы. Праз 3 дні атрыманую закваску працадзіць праз марлю.

Нарыхтоўка соку. Ягады ці садавіну памыць, ачысціць, выціснуць костачкі і пракруціць у мясарубцы. Атрыманую масу пакласці ў марлю і добра выціснуць сок.

Нарыхтоўка віна. Змяшаць 10 літраў соку з 0,3 літра закваскі. Напоўніць на 2/3 банку, закаркаваць. У корак уставіць трубку, другі канец уставіць у шклянку з вадою. Банку паставіць у цёплае месца з тэмпературай 16-22 градусаў. Праз паўтара месяца, калі працэс браджэння закончыцца, разліць віно праз марлю ў чыстыя бутэлькі.

**Мікалай ВАРАНЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

## Паэтычныя „падарункі”

У сераду 29 кастрычніка ў нашай школе прайшла сустрэча з журналісткай, пісьменніцай, паэтэсай, перакладчыцай і заадно рэдактарам — спадарыняй Мірай Лукшай. Нагодай для сустрэчы стаў яе новы зборнік вершаў «Падарункі». Кніга ў прыватнасці для самых наймалодшых дзетак, але і нас — вучняў шостага класа — таксама зацікавіла. Спадарыня Міра ў час паэтычнай сустрэчы прачытала нам некалькі сваіх вершыкаў. Сярод іх быў і той вядомы ўсім вучням „Хворы коцік”. Акрамя таго спадарыня Міра, як паэтэса-майстар расказала нам — паэтам-пачаткоўцам, пра свае паэтычныя пачаткі ды крыху пра тое як пісаць вершы. У час сустрэчы мы маглі таксама паглядзець арыгіналы карцін, якія цешаць нашае вока ў зборніку паэткі. Іх аўтаркай з'яўляецца выпускніца супрасльскага ліцэя, студэнтка мастацтва ў Любліне, самая наймалодшая „белавежанка” Кацярына Сянкевіч.

Сустрэча вельмі нам усім спадабалася, а аўтографам не было канца. Спадарыня Міра падпісвала кніжкі доўгі час.

Паэтычную сустрэчу са спадарыняй Мірай наладзіла нашая настаўніца беларускай мовы Віялета Нікіцюк-Пэркоўская.

**Віка КАРДЗЮКЕВІЧ**
**і Габрыела ТОРКА**







Віка КАРДЗЮКЕВІЧ і Габрыела ТОРКА







## ЛІСКА І РАК

*(руская казка)*

Сустрэла аднойчы ліска знаёмага рака і кажа:

– Давай, брат, пабяжым навыперадкі! Хто першы прыбяжыць на месца, той карону ад цара звяроў атрымае!

– Можа быць, – пагадзіўся рак. – Давай, кума...

Кінуліся нашыя бегуны ў гонкі. Як толькі ліціца пачала бегчы, рак у яе хвост клюшнямі ўчапіўся...

Прыбеглі яны да назначанага месца, махнула ліска хвастом, глядзіць і сваім вочкам не верыць...

А рак ужо ад хваста адчапіўся і смяецца:

– Ну што ты, кума, так замарудзіла. Я столькі часу тут цябе чакаю!

*пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк*

*Оля ДЗЕВЯТКОЎСКАЯ,*
*Новая Воля, школа ў Міхалове*

### Лістапад

*Вось-вось лістапад.*
*У гнёздах пуста.*
*Восень канчыцца.*
*Наступае зіма.*

*Вераніка БУЙКА, Навасады,*
*школа ў Міхалове*

### Кот

*Ляжаў сабе кот,*
*Потым ускочыў на плот.*
*Перапалохаў сабаку,*
*Сабака стаў брахаць.*
*Саскочыў кот з плота,*
*І я яго дахаты ўзяла.*
*Скажу гэтак, дзеткі:*
*Паважайце сваіх звяроў!*

**Загадкі з роднай хаткі**

## Увага, конкурс!!! (№ 45-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 23 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Спявак ахрып.
Які там грып?!
Крычаў у сне
Са страху ён:
– Ратуйце!
Рана мне ў булён!
(п...)

Н. А. Сторажава

**2.**

Стаіць у лесе дрэўца,
пад ветрам лёгка гнецца,
а гронкі ягадак гараць
і снегіры да іх ляцяць...
(а......)

Уладзімір Мацвеенка

**3.**

Па каранях і па пнях,
Як па ступеньках
На дрэвы лезуць
Дзіўныя грыбы.
(а......)

Міхась Пазнякоў

**Адказ на загадкі № 42-14: сасна, часнок, зялёнка.**
**Узнагароду — кампакт-дыск з фільмамі Радка Дамброўскага „Носьбіты культуры” (між іншым пра Віктара Шведа) — выйграла Уля Марчук з Наракі. Віншуем!**

# Браткі

(узбекская казка)

У адной вёсцы жылі гаспадар з жонкай. У іх былі два сыны. Старэйшы брат жыў з бацькамі, а малодшы — са сваёй сямейкай у другім канцы вёскі. Браты жылі дружна, заўсёды дапамагалі адзін аднаму.

Аднойчы старэйшы брат сабраў плён з рысавага поля і падумаў: Малавата сёлета зерня, толькі дзесяць мяшкоў. Ну, але ж у малодшага брата яшчэ менш. Трэба яму дапамагчы, толькі так, каб ён аб гэтым не здагадаўся".

Познім вечарам ён закінуў на плечы мяшок рысу і пайшоў да двара, дзе жыў малодшы брат. Па дарозе ён сустрэў нейкага чалавека, аднак з-за імглы ён не пазнаў хто гэта. Прынёс старэйшы брат мяшок рысу, паставіў у сенцах і вярнуўся дамоў.

Прыйшоў дахаты і не можа зразумець, што адбылося — як было ў яго дзесяць мяшкоў, так і засталося дзесяць!

Вырашыў ён занесці брату яшчэ адзін мяшок. Закінуў яго на плечы і ідзе. А якраз месяц выйшаў з-за хмар і асвяціў дарогу. Старэйшы брат убачыў, што да яго двара таксама ідзе чалавек з мяшком на плячах. Калі ён наблізіўся, старэйшы брат пабачыў свайго малодшага брата.

— А куды ты сабраўся такім позним вечарам? — спытаў старэйшы брат.

— А ты куды? — замест адказу спытаў малодшы.

Браты ўміг усё зразумелі і радасна засмяяліся. І хаця ў іх на спіне былі цяжкія мяшкі, ім стала вельмі радасна і лёгка на сэрцы.

(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)

# Навошта нам легенды?

Яны сцерагуць памяць нашых продкаў і важныя для духовай культуры месца. Такім месцам з'яўляецца пушчанскае ўрочышча ля Варанаборскага тракту, непадалёк Масева. Мясцовыя людзі з пакалення ў пакаленне апавядаюць легенду пра лясную царкву, якая праваліласяя скрозь зямлю.

Легенда гаворыць, што раней на гэтым месцы жылі людзі. На іх напалі іншапляменцы, якія хацелі заваяваць іх зямлю. Людзі не мелі жалезнай зброі, каб абараніцца. Яны схаваліся ў царкву і пачалі маліцца. Бог пачуў іх малітву і схаваў людзей разам з царквой у глыбі зямлі. Там яны пабачылі новае неба і новыя зоркі.

Сёння ў наваколлі Нараўкі вераць, што калі прыкласці вуха ў гэтым месцы, можна пачуць царкоўныя спевы і званы. Іншыя бачылі, як ідзе хрэсны ход з харугвамі. Месца доўга шукалі на Сустрэчах „Зоркі". Яно схавалася ад вока і доўга зводзіла, не дапускала да сябе. А пасля, калі адшукалі, не маглі паверыць у падманлівасць перспектывы. Урочышча непрыкметнае з дарогі, ад сярэдзіны яно выглядала прасторным, па баках ямы відавочныя тэрасы. На месцы мы пабачылі сляды жывога культу — у знак памяці пра легенду мясцовыя людзі паставілі знічкі.

Пушчанскую легенду з адчуваннем размаляваля Наталля Васько, родам з Тарнопаля, што каля Нараўкі.



Малюнак Наталлі Васько да легенды пра „Пушчанскую царкву"

**Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ, Геранімова, ПШ у Міхалове**

## Лістапад

*Ішоў лістапад морам.*
*Лістапад над парасонам.*
*Такі сумны і белы,*
*Як не лістапад пажаўцелы.*

# Вершы Віктара Шведа

## Сынок варыць яйкі

Мама запытала сына:
— Што там робіш праз гадзіну?
Можа ў кухні, ты нябога,
Патрабуеш дапамогі?

— У мяне ж усё ў парадку,
Я вару тут яйкі ўсмятку.
Павару яшчэ хвілінку —
Цвёрдыя ўсё шкарлупінкі.

## Размова бацькоў

— Піша мой сын Яцак
З такімі ведамі,
Што мушу карыстацца
Энцыклапедыяй.

— А я хачу прызнацца
Так піша сынок Мішка,
Што мушу карыстацца
Айчаднаю кніжкай.

## Шалее навальніца

Падчас лiўня ўбег Зянон
У гарадскую краму:
— Мо згубіў хтось парасон
Тут у вас часамі?

— А як выглядае ён?
Спытала прадаўшчыца.
— Абы быў мой парасон,
Шалее ж навальніца!

## Адны на двух

Бацькі купілі боты
Адны на двух сынкоў.
Пачаліся турботы:
Хто іх абуе зноў?

— Чаму ты босы ў школе
Сягоння Яраслаў?
— Абуты сёння Коля,
Ён з сумам адказаў.

# Польска-беларуская крыжаванка № 45

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 41:

Пагоня, маг, цуд, лыка, шарж, ар, ты, сі, шопінг, мак, нырка. Цаца, шар, гурток, джып, Іна, галосны, ігра, Ніка, арамат.

**Беручы пад увагу тое, што не ўсе паспяваюць даслаць адказы тэрмінова, мы рашылі яшчэ назначыць узнагароды спозненым конкурснікам за № 41.** Узнагароды - ***сшыткі з беларускім арнаментам і алфавітам*** - выйгралі **Патрыцыя Лаўнічук**, **Аня Бляўская** з Нараўкі і **Рафал Вакулюк** з Гайнаўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Port | Para-sol | | | | | Adam / Mech | Tak | | Sufit / Halo | Kosiarka |
| | | | | | | | Kanada | | | |
| | Ara / Ar | | | As / Maca | | Koło | | | | |
| | | Mis | Dar / Jeleń | | Lepiej | Las olchowy | | | | |
| | Liczba | | Sto | | | | | | | |
| Liście | | | | | | | | | Jak | |
| | | | | | | | | Jak | | |
| Listo-pad | | | | | | Arka | | | | |



# Беларускія сцежкі Кольберга

**З выпадку 200-годдзя з дня нараджэння Оскара Кольберга, у адпаведнасці з пастановай Сейма, 2014 год адзначаецца ў Польшчы як год гэтага этнографа, фальклярыста і кампазітара. У беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі з гэтай нагоды адбыліся паказы фільмаў, лекцыі, сустрэчы, спявацкія майстар-класы, канцэрт гурта «Transkapela». Моцна акцэнтаваліся беларускія тэмы з яго спадчыны і пошукаў яго «пераемнікаў» на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. Падрыхтаваная ў сувязі са святкаваннем прэм'ера п'есы Віялеты Гжэгажэўскай «Гугулы» з-за хваробы акцёркі была перанесена на 8 лістапада.**

Даследаванні Оскара Кольберга (1814-1890) былі сабраны ў 92 тамах. Том 52 «Збору твораў» («Беларусь-Палессе») гэта этнаграфічная манаграфія Беларусі, якая шырока ўключае Палессе (таксама валынскае Палессе) і Гродзеншчыну. Як і ў большасці манаграфій Кольберга, так і ў гэтым томе прадстаўлены найбольш багатыя штогадовыя звычаі і вясельныя абрады з суправаджаючымі іх песнямі (489 песень на 682 тэксты і мелодыі). З уласных даследаванняў Кольберга выводзіцца частка казак і песень, тры апісанні вяселляў, крыху дробных нататак з іншых абласцей і ўсе запісы мелодый. Гэтыя матэрыялы дапаўняюцца сістэматычна збіранымі ім выпіскамі з літаратуры па народнай культуры Беларусі. Такім чынам, том «Беларусь-Палессе» дазваляе чытачу азнаёміцца з артыкуламі аб рэгіёне, апублікаванымі ў часопісах з дзевятнаццатага стагоддзя, цяжка сёння даступных, і працамі, якія захаваліся ў нешматлікіх бібліятэчных асобніках.

Апублікаваныя ў манаграфіі матэрыялы паходзяць з розных крыніц і перыядаў дзейнасці Оскара Кольберга. Як можна прачытаць у дакументацыі, сабранай Інстытутам яго імя, ён першапачаткова планаваў выпусціць матэрыялы ў трох тамах пад загалоўкамі: Чорная Русь, Літоўская Русь, Палессе і Беларусь, што адпавядае сучасным тэрытарыяльным паняццям. Пасля падзелаў РП і падзеле Вялікага Княства Літоўскага на тры губерні — Беларускую, Літоўскую і Мінскую — Беларуссю першапачаткова называлі Беларускую губерню. Затое да рэгіёна Палесся ўключаем традыцыйна паўднёвыя паветы Гродзенскай губерні (Брэсцкі і Кобрынскі), паўднёвыя паветы Мінскай губерні (Пінскі, Мазырскі, Рэчыцкі), з Магілёўскай губерні Гомельскі павет ды з Валынскай губерні Ковельскі, Луцкі, Ровенскі і Оўруцкі паветы.

Оскар Кольберг у 52 томе пісаў: «Зямля беларуская ад стагоддзяў складала ў большай сваёй частцы неад'емную частку Літвы, значыць, Польшчы. У наступстве гэтага дасталася сюды цывілізацыя Захаду, і беларуская інтэлігенцыя добраахвотна прыняла апрача каталіцызму польскія мову, звычаі і абычаі, так што сёння ёсць толькі беларускі народ, абуджаючыся ад працяглага духовага сну. Беларускі люд да 1839 года быў уніяцкі і толькі з-за насілля стаў праваслаўным. Беларускі люд дзіўна добры і спакойны».У сваю чаргу пра палешукоў успамінаў: «Па вёсках люд быццам бы заглядзеўся на навакольную прыроду, змрочна і санліва глядзіцца неяк. Паляшук мае светлыя валасы, блакітныя вочы; амаль не ўбачыш яго з чорнымі валасамі; ён сярэдняга росту, з тварам больш шырокім, чым падоўжным, з вузкім лобам, з ротам адкрытым. Жанчыны больш прыгожыя чым мужчыны, і ў гэтым розніца ад Валыні і Украіны, дзе мужчыны пераўзыходзяць прыгажосцю жанчын. У многіх вёсках людзі голяць галовы, пакідаючы зверху пасму валасоў (чуб); не носяць барод аж да глыбокай старасці». І далей: «Паляшук не працуе ахвотна земляробствам на неўрадлівай раллі, а ўвесь аддаецца лясному промыслу, бондарству і сталярству, робячы колы і вазы, пляце кошыкі і кашы для брычак, дзярэ ліпавую кару (луб) і робіць з яе каробкі, на канец дзярэ лыка, якім галоўны гандаль вядзе Алыка, з чаго пайшла рыфмаваная пагаворка «Алыка на лыка». З іншага боку, напрыклад, аб Вялікадні на Палессі можна прачытаць: «У палешукоў з першым днём Вялікадня парабкі і дзеўкі збіраюцца на плошчы вечарам ці ў прызначанае месца на карагоды. Дзеўкі і парабкі, пабраўшыся за рукі, утвараюць круг, у цэнтры якога знаходзіцца адна з дзевак і пачынаюць танцы з песнямі».

У рамках праекта «Тэатральныя зноскі: Оскар Кольберг 2014» (24-25 кастрычніка), сярод іншага быў паказаны фільм «Беларускія спевы» Анджэя Бянькоўскага — мастака, фатографа і этнографа, прафесара кафедры дызайну ў Варшаўскай акадэміі мастацтваў. Прэзентавалася таксама яго кніга «Беларусь. Рытуальныя спевы. Песні з калгасаў», з далучанай да яе кружэлкай з больш за 30 песнямі, багата ілюстраваная фотаздымкамі аўтара і жыхароў беларускага Палесся. У альбом таксама запісаны практыкі шаптух. У прадмове да публікацыі яе аўтар пісаў: «Мы паехалі ў Беларусь пасля дзесяцігадовых палявых даследаванняў, фільмавання спеваў і музыкі на ўкраінскіх вёсках размешчаных уздоўж мяжы з Беларуссю. Я прыняў прынцып, што кожнае паведамленне мае важнае значэнне. Я запісаў старыя абрадныя песні і рэпертуар вывучаны інструктарамі, калгасныя кампанейскія песні, партызанскія... Як быццам на абочыне афіцыйнай домакультурнай дзейнасці, дзейнічаюць шаптухі, замаўляючы ад хвароб, няшчасцяў. Важна для мяне тое, як традыцыйная культура пераплятаецца з сучаснасцю, што мы атрымліваем і што мы губляем, звяртаючыся да мінулага».

У беластоцкім Драмтэатры мастак-даследчык сказаў «Ніве»:

— Ключом да гэтай кнігі з'яўляецца дарога. Запісы сабралі мы ад мяжы з Польшчай, гэта значыць ад Брэста аж да мяжы з Расіяй, дзе калгасы, дзе д'ябал кажа дабранач. Апошняе сяло, якое мы дасягнулі, размешчана на мяжы з Беларуссю, Расіяй і Украінай. Аказалася, што ў гэтай малюсенькай вёсцы, у якую можна не ўязджаць, засталіся яшчэ абрады і русальныя песні. Гэты кампакт-дыск і кніга з'яўляюцца вынікам многіх гадоў нашай працы. За 14 гадоў падобныя запісы зрабілі мы з жонкай ва Украіне, праязджаючы з таго боку ўздоўж мяжы з Беларуссю. А тады адкрылі мы, што тая тэрыторыя на беларускім баку невядомая ў Польшчы, што Беларусь у гэтых адносінах у Польшчы нямая, калі аб Украіне трохі гаворыцца. Я падумаў, што трэба гэтую беларускую культуру, гэтую беларускаю культуру ў Польшчы прасоўваць і тое, што пачаў Кольберг. Ён з'яўляецца бясцэннай крыніцай даследаванняў для беларусаў. Многія з гэтых песень, якія я чуў у Беларусі, мае свае варыянты ў запісах Кольберга.

Распавядаў нам:

— Палеская культура Беларусі гэта ў асноўным спевы. На музыку не звярталі тут увагі. У маёй кнізе на фатаграфіях з палескіх вяселляў 50-70 гадоў XX стагоддзя перш за ўсё відаць наогул гармонік і бубен, толькі на дзвюх ёсць скрыпач. У Польшчы з 1945 да сярэдзіны 1970-х гадоў практычна былі забаронены публічныя спевы па-беларуску або па-ўкраінску. Сам памятаю, як на фестывалі народнай музыкі ў Казімежы ў канцы 1970-х аднаму гурту, спяваючаму «па-хахлацку», забаранілі спяваць песні. Адна пані з журы пачуўшы, як жанчыны з калектыву за кулісамі па маёй просьбе заспявалі па-свойму, учыніла скандал, выкрыкваючы: «Tu jest Polska, tu się śpiewa po polsku!». Я думаю, што і ў музычным стаўленні на працягу ўсяго часу ПНР мы пераследавалі нашы нацыянальныя меншасці. Гэта адбіваецца ікаўкай не толькі беларусам і іншым меншасцям, але і палякам.

13 кастрычніка ў варшаўскай канцэртнай студыі Польскага радыё Анджэй Бянькоўскі з нагоды году Оскара Кольберга арганізаваў канцэрт «Tygiel Kolberga. Białorusini, Polacy, Żydzi».

— З'ехаліся на канцэрт дзяўчаты з усёй Польшчы: з Беластока, Варшавы, Кракава, Познані, Любліна, каб заспяваць беларускія песні. Гэта было нешта выдатнае з пункту гледжання майго асяроддзя, якое зацікаўлена ў аўтэнтычнай музыцы, а не стылізацыі. Аказваецца, што ва ўсёй Польшчы ёсць маладыя людзі, якія знаходзяць для сябе культурнае натхненне.

У сваю чаргу аб сваім зацікаўленні народным мастацтвам сказаў:

— Для сучаснага мастацтва гэта вялікі ўрок. Калі я ўвайшоў у гэты свет вельмі моцна і глыбока, гэта парушыла маё, як мастака, мастацтва і маё бачанне мастацтва XX стагоддзя, разуменне ролі мастака. Гэта ўрок пакоры.

Ён дадаў, спасылаючыся на сваю музычна-народную цікавасць:

— На Падляшшы яшчэ дажывае пакаленне скрыпачоў. Лепш з гарманістамі. Для мяне вясковым музыкам не з'яўляецца той, хто грае для горада, таму што прывычыўся стымуляваны нейкім домам культуры, а той, хто грае ў вёсцы, у аснoўным на вяселлях або забавах. Дарэчы, на вяселлях, таксама беларускіх, традыцыя працягваецца найдаўжэй. Што цікавае, музыкамі ў вёсках былі маладыя людзі, старыя не гралі. Для вяселляў звычайна гралі кавалеры. Абавязвала правіла: з мастака няма гаспадара, трэба быць або музыкантам, або гаспадаром.

Падчас «Тэатральных зносак» з лекцыяй выступіў прафесар Алег Латышонак, які не так засяродзіўся на беларуска-палескім томе твораў Оскара Кольберга, што паказаў ягоную дзейнасць на фоне сітуацыі ў Беларусі пры яго жыцці:

— Кольберг стаў згадваць Беларусь у 1836-1867 гадах, а апошняя запіска — ад 1887 г. У той час былі Вясна народаў, Студзеньскае паўстанне, з'яўленне першай палітычнай арганізацыі... Я думаю, што недастаткова ўлічваецца гісторыкамі, што Кольберг быў, аднак, у Беларусі. Некаторыя даследчыкі яго гісторыі, улічваючы беларускі матыў, лічаць, што ён не быў у Беларусі. На мой погляд, быў там і праводзіў даследаванні. Толькі што ў маладосці. Абодва, як Кольберг і ў гэты час найбольш вядомы даследчык у Беларусі Адам Ганоры Кіркор, на працягу больш дзясятка гадоў жылі ў тым жа асяроддзі ў Кракаве, а Аляхновіч (аўтар Уступу для 52 тома «Збору твораў» Кольберга — М. Х.) сцвярджае, што Кольберг дасягненнямі Кіркора не карыстаўся. Я знайшоў адзін артыкул, з якога вынікае, што Кольберг, аднак, скарыстаўся дасягненнямі Кіркора. Таямніцай застанецца тое, чаму адсутнічаюць доказы кантактаў паміж імі. Я думаю, што гэта немагчыма.

У сваёй лекцыі прафесар Латышонак згадваў:

— Невядома, калі дакладна Кольберг зацікавіўся русінскімі абшарамі ды калі пачаў збіраць матэрыялы. У 1837 г. працаваў ён у Мітаве (Елгаве) у якасці прыватнага выкладчыка музыкі. У сваіх паперах пісаў, што ў тым жа годзе адправіўся ў Гомель, Мінск, Вільню, Мітаву, Рыгу і Віндаву (Вентспілс), і што, верагодна, вяртаўся праз Вільню і Беласток у Варшаву (...). Гомель, як вядома, ляжыць на ўсходзе Беларусі і Кольбергу давялося праехаць праз усю Беларусь. Жалезнай дарогі тады яшчэ не было (...). На жаль, мы не ведаем, у каго спыняўся Кольберг у час падарожжа. Ён, праўдападобна, ужо тады рабіў запісы. Сведчанне гэтаму — сшытак, якога першыя лісты запоўнілі мелодыі песень з ваколіц Варшавы, а затым запіс каля дваццаці мелодый, размешчаных «паміж Віцебскам і Полацкам (каля Дубоўніка, Улы)». З гэтага можна зрабіць выснову, што гэты сшытак быў з Кольбергам у падарожжы ў 1836 г. Гэта быў бы адзін з першых, калі не першы, з захаваных палявых запісаў (...). Адно можна сказаць напэўна — пераехаў Беларусь калі не ўздоўж і ўпапярок, то па меншай меры ўшырыню.

Спявацкія майстар-класы ў рамках праекта вяла ў Драмтэатры спявачка і педагог Святлана Буцкая з Мінска, якая ад дзесяці гадоў займаецца рэканструкцыяй старых беларускіх песень і збірае беларускія песні з крыніцы — на беларускіх вёсках, якая таксама выкарыстоўвае іх у ведзеным сабою мужчынскім хоры «Рада». Выступае яна таксама як спявачка і актрыса ў тэатры «Wengajty» (гэты тэатр з сядзібай у Вармінска-Мазурскім ваяводстве, у прыватнасці, рэканструюе літургічную драму), а таксама займаецца царкоўнай музыкай. У размове з «Нівай» у перапынку майстар-класаў сказала:

— На шчасце, у Беларусі вёска па-ранейшаму спявае. Можна сустрэцца з цэлымі пявучымі рэгіёнамі. Надалей спявае заходняе і цэнтральнае Палессе. Цудоўная вёска Тонеж захавала не толькі гадавы спявацкі абрадны цыкл, а і ўсе абрады, невядомыя ў іншым месцы. Усходняе Палессе ўжо менш багатае ў гэтым плане, таму што там, дзе прайшла апошняя вайна, у гэтым сэнсе больш пуста. У Беларусь, амаль усюды, дзе вайна прайшла, прыйшоў расійскі люмпен-пралетарыят без каранёў. Ён прынёс нейкія гарадскія частушкі. Тэрыторыі, акружаныя балотам, куды танкі не дайшлі, захавалі на Палессі наймацнейшую традыцыю, нават у сундуках, якія не гарэлі.

Семінар быў, на жаль, накіраваны толькі на акцёраў (удзел прыняло ў ім толькі трое). На жаль, таксама на сустрэчы, сярод іншых, з Анджэем Бянькоўскім ды паказе яго фільмаў і лекцыі праф. Латышонка, апрача трох журналістаў і непасрэдных удзельнікаў «Тэатральных зносак», не было зацікаўленых.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Ляўкоўскі прыход быў вялікі

## Размова з настаяцелем Ляўкоўскага прыхода, айцом мітратам **Леанідам ЯНКОЎСКІМ**.


фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— Вы, бацюшка, родам з Грабаўца, што каля Бельска, дзе зараз пралягае мяжа між каталіцтвам і праваслаўем. Які быў там прыход: Ягуштова, Малешы? І што прывяло Вас у духоўны сан — мо тое вырастанне на мяжы?..**

— Наш прыход спрадвечна быў пры царкве Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Бельску. Наша вёска не была крайняй да міжваеннага перыяду. Быў у Браньску дзелавіты прыход, быў дзелавіты прыход у Малешах, у Цеханоўцы. Мы тады яшчэ былі ўсярэдзіне. Так было да 1945 года, калі Буры спацыфікаваў большасць тамашніх вёсак. Вядома, што з Цеханоўца прагналі амаль усіх, і з Браньска, дзе асталося каля дваццаці сем'яў — а было раней каля чатырохсот. І Малешы не былі меншыя. І такім чынам наша вёска апынулася быццам на ўскраіне мясцовага праваслаўя. У Грабаўцы ў мой час было каля ста дзесяці сем'яў, у тым ліку звыш сямідзесяці праваслаўных; рэшту складалі каталікі. І не было ў нас ніякіх міжканфесійных канфліктаў, усе жылі згодна.

У Ягуштоўскім прыходзе нашы могілкі — яны між Ягуштовам і Стрыкамі. Яны ў пяці кіламетрах ад Грабаўца, там царкоўка святога Ануфрыя. Захаваўся там намагільнік майго прадзеда па маме Альбіна Красоўскага, які быў калісь даволі багатым чалавекам. А дзедаў брат быў сакольскім царкоўным старастам. У мяне было пяцярых братоў і мама ўсё хацела каб мы сталі святарамі, бо мае продкі — і з аднаго, і з другога бакоў — былі глыбока веруючымі. У нашай хаце заўсёды прымалі бацюшку, калі прыязджаў з малітвай. І так склалася, што мне апошняму прыйшлося выканаць волю мамы, бо браты абралі сабе іншыя жыццёвыя дарогі... Аднойчы мама вярнулася з царквы і паведаміла, што прымаюць у семінарыю — і такім чынам я ў 1963 годзе паступіў на духоўны шлях. У маім выпуску семінарыю закончыла дзесяць чалавек, м.інш. Ян Ярашук, што зараз у Міхалове — благачынны Гарадоцкага дэканата, Аляксандр Шаломаў у Ольштыне ці Анатоль Сегень у Амерыцы.

**— А цяпер можа слоў пару пра тое, як Вы трапілі ў Ляўкова.**

— Першы мой прыход быў у Коснай, куды я трапіў у 1969 годзе і праслужыў там сем з паловай гадоў. Умовы там былі нялёгкія. Не было святла, а плябанія была ў агульным гаспадарчым будынку. Але з ходам часу ўдалося давесці ўсё да прыстойнага парадку, нават абсталявалі там ванны пакой, якім ні разу мы не пакарысталіся; і пераехалі ў Ляўкова. Тадышні ляўкоўскі настаяцель Мікалай Чурак, з якім даводзілася мне сустракацца ў айца Мікалая Келбашэўскага, выязджаў у Амерыку і спытаў мяне, ці не хачу я ў Ляўкова. Пайшоў бы, адказаў я, але, мабыць, гэта за высокія для мяне парогі. Ён ужо, відаць, запрапанаваў мяне ляўкоўцам і яны запрасілі мяне ва Уладыкі. І так я апынуўся ў Ляўкове.

**— А чаму ў Ляўкове былі „вышэйшыя парогі" чым каля Дашоў, што тут было такое прыцягальнае?**

— Было некалькі прычын. Акурат наша дачка паступала ў школу. А Косна, гэта па сутнасці не вёска, толькі калёнія, дзе царква, трое могілак і двух гаспадароў...

**— Але дашоўская школа была блізка...**

— Каля кіламетра. Але там быў такі Пеценька, недаразвіты — ён пераступаў дзецям дарогу, забіраў у іх рэчы. А дачка не мела тады кампаніі — ніводнае дзіця з Паграбоў не вучылася з ёю. Гэта нас там трывожыла. Далей — айцец Чурак паведаміў нас, што ў Ляўкове будуць стаўляць акумуляцыйныя печкі. У мяне хворыя ногі і мне трэба было быць у цёплым. А ў Коснай была вельмі халодная царква — вышыня яе да крыжа пяцьдзясят метраў, а таўшчыня муру паўтара метра; і мне зімою было там вельмі цяжка. І 31 мая 1976 года я пераехаў у Ляўкова.


фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Эпітафія прадзедаў а. Леаніда Янкоўскага на грабавецка-стрыкоўскіх могілках

**— А якім паказалася Вам Ляўкова? Тут жа, бадай найстарэйшая ў Польшчы царква...**

— Прыйшоў я сюды з насцярожанасцю, бо тут была даволі складаная сітуацыя. Пры настаяцелі Мікалаю Патапчуку царква была закрыта. Ды і пазней, калі служыў Мікалай Чурак, таксама тут былі супрацьстаўныя групоўкі вернікаў: адны былі за вяртанне Мікалая Патапчука, другія былі супраць, іншыя былі нейтральныя...

**— Не толькі перад Мікалаем Патапчуком закрылі тут царкву, закрылі яе яшчэ і раней — перад Рафаілам Чыстоўскім. Тут было амаль міннае поле...**

— Калі я заехаў да ўладыкі Васілія афармляць мой пераход у Ляўкова, то ён асцерагаў мяне: „Хочаш шышку на галаву, то я табе дам такую магчымасць. Але пасля, калі тую шышку заробіш, на мяне не наракай". Удалося мне, аднак, мінуць мясцовыя рыфы, якія ўсё яшчэ аставаліся. Мікалай Патапчук, з'язджаючы з Ляўкова, заракаўся, што яшчэ сюды вернецца, і ягоныя прыхільнікі ўсё яшчэ спадзяваліся ягонага вяртання. Але дзякуючы малітве і Божай волі ўдалося змірыць страсці. Шмат памагла мне ў гэтым парафіяльная рада, дзе былі памяркоўныя людзі, у іх ліку Фёдар Ахрымюк, Павел Пякарскі і псальмістка Валянціна Саевіч. Ну, вядома, здараліся нейкія складанасці, бо такое жыццё, але ўдавалася іх залагоджваць.

Тут трэба было таксама і шмат папрацаваць. Трэба было адрамантаваць плябанію, ацяпліць яе. У той час было складана атрымаць патрэбныя для гэтага матэрыялы, але людзі стараліся дапамагаць...

**— Можа Вы, аднак, больш скажаце пра мясцовую царкву.**

— Першая пісьмовая згадка пра ляўкоўскую парафію і царкву датуецца 1505 годам. Але няма згадкі, колькі гадоў да 1505 года завязалася тут рэлігійнае жыццё — магчыма, што сто, мо дзвесце, а можа і трыста; можа наш прыход існаваў ужо ў XIII стагоддзі... Цяперашняя ляўкоўская царква была ўзведзена ў 1574 годзе, а фундатарам быў князь Фёдар Масальскі. Тады не было прыходаў у Юшкавым Грудзе, у Семяноўцы, у Нараўцы, у Ласінцы — гэта ўсё ахоплівала Ляўкоўская парафія. Нават ёсць здагадка, што манастыр, якога пераемнікам сённяшні Кудак, належаў Ляўкову. І тут меў быць манастыр і мы яго шукалі, бо былі здагадкі, што ён мог быць у Пажарным, былі здагадкі, што ён быў там, дзе былі першыя ляўкоўскія могілкі — цяпер там лясок за керамічнай фабрыкай, край сенажацей, што цягнуцца ў бок ляшуцкіх хутароў, ёсць таксама здагадкі, што недзе каля Міхнаўкі.



фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Эпітафія былога ляўкоўскага настаяцеля Рафаіла Чыстоўскага на могілках у Крушынянах

**— Упершыню чую, што ў тым ляску, куды мы, ляўкоўскія хутаранскія падшпаркі, часам забягалі, вяртаючыся са школы, былі могілкі...**

— Нават там захаваліся эндэмічныя расліны, якія калісь садзілі на магілках. Чарговыя ляўкоўскія могілкі былі каля царквы, а цяперашнія, што за Новым Ляўковам — трэція. Парафія ў Нараўцы была заснавана ў 1869 годзе, у Семяноўцы — у 1957 годзе, а ў 1875 годзе адлучыліся парафіі ў Ласінцы і Юшкавым Грудзе. Не ўсе мясцовасці з апошніх двух прыходаў былі ў Ляўкоўскім — толькі частка іх, напрыклад да Ляўкова належала частка Ласінскай парафіі прыблізна да гайнаўска-нарваўскай шашы, у тым ліку Прыбудкі і Барысаўка. Мала таго — да Ляўкоўскага прыхода належалі Цыхаволя і Бераставіца-Драўляная. У 1736 годзе Ян Казімір Масальскі, суддзя Ваўкавыскай зямлі, уласнік Лукі, запісаў у завяшчанні, каб яго пахавалі у ляўкоўскай царкве перад алтаром Багародзіцы. На пахаванне ён ахвяраваў 300 злотаў і 100 злотаў на званы, ды запатрабаваў, каб настаяцелю даць шапку з пурпурным верхам. Ён і пахаваны ў нашай царкве; калі мы ў 1995 годзе праводзілі рамонт, то выявілі яго і жонкі астанкі пад тым месцам, дзе зараз захоўваецца плашчаніца Збавіцеля.

У канцы XVIII стагоддзя да Ляўкоўскага прыхода належалі такія мясцовасці як Бярозавы Капец, Бярнацкі Мост, Броды, Хамінова, Дуброва, Гнілец, Гарадзіска, Лешукі, Гушчэвіна, Янова, Кардон, Ляўкова, Лука, Масева, Міхнаўка, Міклашэва, Мінкаўка, Нараўка, Ахрымы, Альхоўка, Пасекі, Падляўкоўе, Семяноўка, Скупава, Слабодка, Сушчы Барок, Свінарої, Тэрамiскі, Заблотчына, Зарэча. У 1847 годзе ў Ляўкоўскім прыходзе было 1007 мужчын і 1039 жанчын. Кліравыя ведамасці з 1854 года падаюць: „Драўляная царква на каменным фундаменце, званіца старая асобная — патрабуе рамонту. На могілках узведзена малую капліцу для пахавальных набажэнстваў" — капліца стаяла ў найвышэйшым месцы сённяшніх „старых" могілак, яна развалілася ў міжваенны час. Пасля адлучэння Нараўчанскага прыхода агульны лік ляўкоўскіх прыхаджан склаў 1364 асобы. У 1874 годзе быў чарговы рамонт царквы. У 1881 годзе ў царкве быў устаноўлены новы іканастас, які стаіць па сённяшні дзень. Тады ж была адрамантавана званіца, а царкву шэсць гадоў пазней пакрылі бляхай. Пры царкве працавала школа, у якой навучалася 26 хлопцаў і 7 дзяўчат. У 1884 годзе на тэрыторыі прыхода заснавана школы граматы ў Слабодцы, Луцэ і Ляўкове. У міжваенны перыяд працавалі тры агульныя школы: у Ляўкове, Лешуках і Луцэ. У школьнай хроніцы запісана, што настаўнік Вацлаў Шыхановіч зліквідаваў беларускую школу і навучанне мела адбывацца па польскай мове. Тады, у 1924 годзе, у знак пратэсту бацькі не пусцілі дзяцей у школу. У 1925 годзе прыход налічваў 902 мужчыны і 926 жанчын; у межах прыхода пражывала 26 асоб каталіцкага веравызнання.

Пасля Другой сусветнай вайны развалілася званіца пры ляўкоўскай царкве і ў 1948 годзе прыход выступіў за дазвол пабудаваць званіцу ў сённяшнім месцы; тады ва ўладах не было кампетэнтных людзей і такі дазвол быў выдадзены. Пасля нехта аглянуўся, што гэта парушае гістарычны кшталт царквы і прыехалі кампетэнтныя асобы, каб спыніць будову. Але ўжо стаяў крыж і так асталося. І па сённяшні дзень будынак нашай царквы не лічыцца помнікам даўніны. Варта тут яшчэ ўзгадаць, што раней над сярэдзінай царквы знаходзіўся вялікі купал, а калі людзі вярнуліся з бежанства, таго купала ўжо не было, заваліўся. Людзі не мелі за што адбудаваць купал і накрылі неф царквы двухскатным дахам так, як ён сёння выглядае.

(працяг будзе)

**Размаўляў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# ЛЯКАРСТВА НА НУДУ

Шасцігадовай Аніце абрыдлі гульні лялькамі і дзіцячыя мультфільмы.

— Мне нудна, — абвясціла аднойчы, седзячы з бацькам на канапе.

— Тады збірайся, едзем на басейн, — хутка вырашыў бацька.

Так пачалася вялікая прыгода жыцця чатырнаццацігадовай ужо Аніты Гайдук. Яна — трохразовая чэмпіёнка Падляшша па плаванні ў класічным стылі, пераможца міжнародных спаборніцтваў па плаванні, арганізаваных у Польшчы і Беларусі, уладальніца пятнаццаці бронзавых, васьмі сярэбраных і трыццаці трох залатых медалёў, прыкладная вучаніца, надзвычай сціплая і сталая як на свой, не так ужо сур'ёзны, узрост. Жыве ў прыгожым, драўляным доме разам з мамай Аняй, кандыдатам у дэпутаты гарадскога савета, бацькам Адамам і пяцігадовай сястрой Міхалінай. Плаваць вучылася ў Сакольскім асяродку спорту і рэкрэацыі.

— З бацькам з'ездзілі мы некалькі разоў на сакольскі басейн і мне спадабалася. Зараз запісаў на спецыяльныя заняткі з трэнерамі і так я ўжо там засталася, — успамінае пачаткі сваёй спартыўнай кар'еры Аніта.

Калі бацька хацеў хутка вымусіць паслухмянасць у дачкі, казаў: «не будзе плавання», і гэта дзейнічала заўсёды. Мабыць, не надта педагагічна, але яму дазволена. Гэта ён на працягу больш чым васьмі апошніх гадоў заўсёды быў побач дачкі ў хвілінах узлётаў і падзенняў, слухаў і падказваў. Гэта ён пасля цяжкага працоўнага дня садзіўся за руль, каб завезці дачку на штодзённую трэніроўку, ці на спаборніцтвы на другі канец Польшчы.

— Як стаць чэмпіёнкай? — пытаю ў маёй суразмоўцы.

— Кожнага вечара гадзіну-паўтары расцягваюся і практыкую «на сушы». Да нядаўна я шэсць дзён у тыдні праводзіла на сакольскім басейне. Цяпер, у сувязі з маім пераездам, водных трэніровак стала яшчэ больш. Займаюся гэтым як вучаніца плавальна-стралковага класа Гімназіі № 20 Комплексу спартыўных школ у Беластоку.

— Ты прыкладная вучаніца?



Аніта Гайдук (справа) на сакольскім басейне

— Насамрэч. Часу на вучобу заўсёды не хапала, але неяк старалася і паспявала.

— Ці хапае яго для знаёмых?

— Толькі ў выхадныя. Папраўдзе маё грамадскае жыццё праходзіць на басейне. Там сустрэла я сваю самую лепшую сяброўку.

— Пару месяцаў таму ты прымала ўдзел у чэмпіянаце Польшчы ў Дэмбіцы, адкуль вярнулася з 29-м месцам. Скажы, што адчуваеш на старце?

— Вялікі стрэс. Эліміную яго, слухаючы музыку і інструкцыі трэнера і бацькі. Неабыякавая тут таксама сяброўская падтрымка. У вадзе ёсць ужо поўная канцэнтрацыя на тэхніцы і хуткасці плавання.

— Плаванне для цябе гэта...

— Поспехі, магчымасці самаздзяйснення, добрая форма, вялікапышны сілуэт, безліч кайфавых людзей, новыя месцы. Гэта такое другое жыццё, бо на першым плане заўсёды сям'я.

— Ты стала спартсменкай дзякуючы...

— Цудоўным бацькам і трэнерам Конраду Стацкевічу і Рафалу Фірсу.

— У будучыні хочаш...

— Трапіць у школу спартыўнага майстэрства і перамагаць, перамагаць і яшчэ раз перамагаць.

Варта дадаць, што дзякуючы заўзятасці бацькі Адама пяцігадовая сястра Аніты, Міхаліна, таксама заражаецца плавальнай пасіяй. Акрамя таго, да яе далучыла яшчэ двое крынскіх пяцігодкаў, састаўляючы тым самым больш за палову сакольскай спартыўнай секцыі ў гэтай узроставай катэгорыі.

Будзем назіраць за поспехамі крынскіх плыўцоў!

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**





# http://pen-centre.by





Адным з найбольш вядомых міжнародных літаратурных аб'яднанняў з'яўляецца Міжнародны саюз пісьменнікаў, які доўгі час называўся ПЭН-клубам. Гэтая арганізацыя садзейнічае творчаму супрацоўніцтву пісьменнікаў цэлага свету. Таксама яе мэтай з'яўляецца развіццё мастацкага перакладу. Асабліва важна тое, што ПЭН-клуб падтрымлівае пісьменнікаў, якія знаходзяцца ў турэмным зняволенні, маюць матэрыяльныя праблемы альбо з'яўляюцца рэпрэсаванымі. То-бок гэта такі сусветны літаратурны прафсаюз, які мае свае аддзяленні ў больш за сотню краінах свету. Яны называюцца ПЭН-цэнтрамі.

У беларускіх літаратараў таксама ёсць свой ПЭН-цэнтр. Ягоны сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://pen-centre.by.**

Інтэрнэт-прадстаўніцтва беларускага ПЭН-цэнтра выглядае даволі прывабна. Адразу бачна, што сайт быў зроблены прафесійна і з творчым падыходам. Тут і шматколерная гама адценняў, нязвыклыя, але цікавыя аздабленні выйсцяў як на старонкі сайта, так і на іншыя сайты-партнёры. Адзіным недахопам падаецца занадта вялікі памер галоўнай старонкі, які і напалову не адлюстроўваецца на маніторы звычайнага камп'ютара.

У сайта няма звыклага дзялення на дзве ці тры часткі. Пры гэтым выйсці на іншыя старонкі згрупаваны ўверсе і ўнізе выяўлення. А рубрыка „Навіны" месціцца пасярэдзіне. Адметна, што паведамленні, размешчаныя там, сучасныя, а не выкладзеныя некалькі месяцаў таму. З гэтага можна зрабіць выснову, што кіраўніцтва ПЭН-цэнтра зацікаўлена ў дзейным сайце і сваім іміджы. „Беларускі ПЭН-цэнтр — прадстаўніцтва Міжнароднага ПЭН-клуба, аб'яднанне прафесійных літаратараў, якое абараняе правы пісьменнікаў, удзельнічае ў сусветным літаратурным працэсе і спрыяе развіццю беларускай культуры", — так вызначае сабе арганізацыя на галоўнай старонцы свайго сайта.

Для тых, хто цікавіцца беларускай літаратурай, будзе карысна даведацца, што ў розныя гады прэзідэнтамі беларускага ПЭН-цэнтра былі Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Някляеў, Андрэй Хадановіч. Сярод членаў арганізацыі такія асобы як Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў і іншыя.

Сярод найбольш значных вынікаў сваёй дзейнасці беларускі ПЭН-цэнтр называе заснавальніцтва прэміі імя Ежы Гедройца і прэміі „Дэбют", рэгулярнае правядзенне конкурсаў маладых літаратараў, штогадовае ўручэнне прэміі імя Алеся Адамовіча і Францішка Багушэвіча, падтрымку выдання кніг.

Члены ПЭН-цэнтра разумеюць, што для кожнай літаратуры, а тым больш літаратуры беларускай вельмі важна, каб у яе прыходзілі новыя людзі. Таму не дзіўна, што ў самым цэнтры галоўнай старонкі месціцца паведамленне пра праграму „Рэзідэнцыя маладога літаратара", якую ПЭН-цэнтр зладзіў пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні. Праграма дае магчымасць творцу ва ўзросце да 30 гадоў два тыдні жыць у Доме правоў чалавека ў Вільні і займацца літаратурнай работай (паэзія, проза, пераклады, крытыка і іншыя).

Пра тое, якія іншыя праекты зрэалізаваў ці рэалізуе беларускі ПЭН-цэнтр можна даведацца на старонцы „Нашы праекты". Прынамсі, сярод іх каля дзясятка розных прэмій.

Ну а той, хто жадае ўласнымі грашыма падтрымаць дзейнасць беларускага ПЭН-цэнтра, знойдзе на сайце рэквізіты банкаўскага рахунка арганізацыі, куды можна пералічыць фінансавыя сродкі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара



### Бацька айчыннай гістарыяграфіі

# 230 гадоў з дня нараджэння Тодара Нарбута

Тодар Нарбут — гісторык, археолаг, краязнавец — нарадзіўся 8 лістапада 1784 г. у маёнтку Шаўры Лідскага павета (цяперашні Воранаўскі раён). Паходзіў са шляхецкага роду гербу „Трубы". Скончыў піярскі каледж у Любешаве. У 1803 г. скончыў Віленскі ўніверсітэт і неўзабаве быў прыняты ў Пецярбургскі кадэцкі корпус. Удзельнічаў у расейска-пруска-французскай вайне 1806-1807 гг., расейска-шведскай вайне 1808-1809 гг. Быў капітанам інжынерных войскаў, аўтарам праекта і будаўніцтва Бабруйскай фартэцыі, за што быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны.

З 1812 г., калі Нарбут жыў у сваім маёнтку, ён займаўся даследаваннем гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Цягам усяго жыцця быў актыўным сябрам Віленскай археалагічнай камісіі, вёў шматлікія археалагічныя раскопкі — спярша на Падняпроўі, пасля на радзіме. Адзін з першых на беларускіх землях высвятлі, што курганы — гэта месцы старажытных пахаванняў. Апісаў руіны крэпасці на Нёмане ля вёскі Лыскава (цяпер Пружанскі раён). Даследаваў Лідскі замак. Адшукаў у Старым Быхаве адну з першых хронік XVI стагоддзя. Пісаў Тодар Нарбут па-польску, але быў вялікім патрыётам гістарычнай Літвы.

Расейская акупацыйныя ўлады вінавацілі Нарбута ў распрацоўцы планаў захопу Бабруйскай фартэцыі і Вільні ў час паўстання 1830-1831 гадоў, адліўцы гармат і каардынацыі дзейнняў паўстанцаў, аднак не здолелі даказаць такога чыннага ўдзелу Нарбута.

Дзеці Тодара Нарбута бралі актыўны ўдзел у вызвольным паўстанні 1863 г. Старэйшы сын Людвік узначальваў паўстанцкі аддзел на Лідчыне і загінуў у час бою пад Дубічамі (цяпер Літва); малодшы Баляслаў быў асуджаны на смерць, аднак пазней яго-нае пакаранне было заменена на пажыццёвае зняволенне. Адзіная дачка была зямушаная ўцячы з краіны і завочна прысуджаная да катаргі. Сам Тодар Нарбут з жонкаю Хрысцінай былі асуджаныя на высылку ў Сібір, хоць у дачыненні да яго прысуд не быў выкананы з прычыны хваробы. Жонка атрымала дазвол на вяртанне з Пермскай губерні толькі ў 1871 г., аднак Нарбут болей з ёй не ўбачыўся, бо ён памёр у Вільні ў 1864 г.

Тодара Нарбута нездарма называюць бацькам айчыннай гістарыяграфіі. Пасля сябе ён пакінуў грунтоўную 9-томную „Гісторыю літоўскага народа", якая выдавалася ў 1835-1841 гг. У ёй апісваюцца падзеі да 1569 г. ВКЛ XVI стагоддзя лічыў залатым векам у гісторыі Беларусі. У „Гісторыі..." шмат месца адведзена беларускаму народу, яго мове і пісьменнасці. Выданне змяшчае шмат цікавых звестак пра Менск, народныя абрады беларусаў Лідчыны. Апублікаваў шэраг гістарычных крыніц, у тым ліку ў 1846 г. „Хроніку Быхаўца". Для сваёй працы выкарыстаў беларускія летапісы і „Хроніку польскую літоўскую, жамойцкую і ўсяе Русі" Мацея Стрыйкоўскага. Займаўся пытаннямі старажытнай міфалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі. Пакінуў Нарбут і мураваную памяць — у 1847-1852 гадах збудаваў у Эйшышках парафіяльную царкву.

Пахаваны Тодар Нарбут ля парафіяльнага касцёла ў мястэчку Нача (цяперашні Воранаўскі раён). У суседніх Шаўрах пахаваны жонка і сын Баляслаў. Там жа пры магілах усталяваны памятны камень паўстанцам.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У чаромхаўскім прадшколлі

27 кастрычніка 2014 г. адбылася XXXIV сесія Рады гміны. Адным з пунктаў пасяджэння была справаздача дырэктара Школьна-прадшкольнага комплексу школ Марыёлі Шыманчук з улікам вынікаў праверкі тэсту вонкавага экзамену ў 2013/2014 навучальным годзе. Вось некаторыя паказчыкі працы садка № 61.

У навучальным годзе працавалі тры аддзяленні: група 3-4-годкаў — 24 дзетак, 5-годкаў — 15 і 6-годкаў — 22, у тым ліку адно дзіця ахопленае было дамашняй адукацыяй.

Занятні праводзяцца штодзённа ў пяцігадзінным рэжыме працы з 8 да 13 гадзіны. Прадшколле працуе з 7 да 16 гадзіны. За прабыванне дзіцяці ў прадшколлі ў пасляўрочны час бацькі дадаткова плацяць 1 злот за кожную гадзіну.

9 кастрычніка 2012 года прадшколле перасялілася ў новае памяшканне. Для гэтай мэты гміна сваім коштам прыбудавала і добраўпарадкавала вонкавае крыло будынка школы.

У гэтым навучальным годзе да заняткаў было ўведзена бясплатнае навучанне англійскай мове ў памеры 1 гадзіны ў тыдзень для кожнай узроставай групы. Гміны асяродак сацыяльнай дапамогі кампенсуе кошты харчавання для 30 дзетак у сярэднім памеры 1800,10 зл. штомесячна. Садок удзельнічаў у рознага роду культурных мерапрыемствах і грамадскіх акцыях: Дзень бабулі і дзядулі, Мікалайкі, Дзень маці, Прыбіранне свету, добраўпарадкаванне магілак на парафіяльным могільніку, Карнавальны баль, Прывітанне вясны, тэатральныя спектаклі, развітанне з шасцігодкамі ды Вечары калядак. Былі арганізаваны экуменічная сустрэча з нагоды Хрыстовага Нараджэння з удзелам бацькоў і працаўнікоў садка, экскурсіі ў Беласток на спектакль „Спячая каралева” і ў агратурыстычную кватэру „Купала” з нагоды Дня дзіцяці. У цякучым годзе былі арганізаваны праекты ў рамках вонкавых праграм Агульнапольская адукацыйная праграма „Віні-Пуху сябры натуры” і Акадэмія здаровага дашкольніка. Праграму „Маё дзіця ідзе ў школу” арганізавала Гайнаўская санэпідэмстанцыя. Апрача таго прадшколле самастойна арганізавала рознага роду конкурсы і турніры. Сёлета дашкольнікі ўдзельнічалі ў экалагічным турніры „Малы эколаг”, затым у II Агульнапольскай вясне маладых талентаў „Гайнаўка 2014 г.”. Прэмію „Талент 2014 года” атрымаў Павел Смык. На павятовым аглядзе XXII Фестывалю дашкольнікаў у Гайнаўцы „Мама, тата і я” вылучэнні атрымалі Наталля Чыквін, Амелія Багушэўская і Марцаліна Тулінская. Апрача таго чаромхаўскія дашкольнікі ўдзельнічалі ў павятовым аглядзе чытальніцкага конкурсу „O złotą różdżkę dobrej wróżki” ў Гайнаўцы і ў пластычным конкурсе „Бяспечна на вёсцы”.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Гмінная статыстыка

Аб тым, што старэюць вёскі і памяншаецца лік жыхароў не трэба нікога пераконваць. Сведчаць аб гэтым статыстыкі. Напрыклад у Кляшчэлеўскай гміне на працягу трох гадоў (2010-2012) лік жыхароў паменшыўся на 112 чалавек. Найбольшы паказчык „скарачэння насельніцтва” ў мястэчку Кляшчэлі — 46 чалавек, у Дашах — 11, у Сухавольцах — 14, затым у Палічнай, Тапарках і Залешанах — па 7 чалавек, а ў астатніх ад 1 да 5.

Адно ў двух салэцтвах паводле стану на 31 снежня 2012 г. лік жыхароў павялічыўся — у Дабрывадзе на 14 чалавек і ў Пагрnative — на 3 асобы. Стан такі вынікае з прапіскі новапасяленцаў, якія прыбылі з іншых рэгіёнаў, купілі гаспадаркі ў гэтых сёлах і сталі падаткаплацельшчыкамі.

**А вось як гэта прадстаўляецца ў паасобных салэцтвах:**

**(ус)**

| Год | 2010 | 2011 | 2012 | – | + |
|---|---|---|---|---|---|
| Кляшчэлі | 1442 | 1411 | 1396 | 46 | - |
| Белая Страж | 28 | 27 | 26 | 2 | - |
| Дашы | 252 | 248 | 241 | 11 | - |
| Дабрывада | 222 | 226 | 236 | - | 14 |
| Грузка | 56 | 54 | 53 | 3 | - |
| Косына | 4 | 3 | 3 | 1 | - |
| Курашава | 60 | 56 | 55 | 5 | - |
| Пятрлўшчына | 29 | 29 | 28 | 1 | - |
| Пагрnative | 73 | 78 | 76 | - | 3 |
| Палічна | 162 | 160 | 155 | 7 | - |
| Рэпчычы | 49 | 50 | 48 | 1 | - |
| Сакі | 135 | 133 | 133 | 2 | - |
| Сухавольцы | 144 | 141 | 130 | 14 | - |
| Тапаркі | 117 | 112 | 110 | 7 | - |
| Залешаны | 67 | 66 | 60 | 7 | - |
| Жукі | 49 | 46 | 44 | 5 | - |
| | 2889 | 2840 | 2794 | 112 | 17 |

# Беларускія Дзяды ў Варшаве

Беларусы наведалі магілы славутых землякоў на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве.

Белыя і чырвоныя зьнічы запалалі на магілах такіх вядомых ураджэнцаў беларускай зямлі, як Станіслаў Манюшка, каханая Кастуся Каліноўскага Марыя Ямант, выбітны фатограф Ян Булгак, літаратар Адам Плуг, і таксама таленавіты польскі этнограф і фальькларыст, стваральнік „Люду беларускага” Міхал Федароўскі.

Пра жыццё і дзейнасць людзей, якія шмат зрабілі для Беларусі і Польшчы, расказаў беларускі палітык, гісторык і культуролаг Зянон Пазняк:

— Гэтае свята сведчыць пра адзінства нацыі людзей, якія жылі раней, і сучаснікаў. Памяць продкаў мае вельмі вялікае значэнне. Гэта памяць пра вечнасць. Калі няма гэтай памяці, нацыя не існуе, яна не можа існаваць, яна проста развaліцца. Гэтае свята мусіць быць дзяржаўным. Павінны быць выхадныя дні.

Беларускія Дзяды ў Варшаве арганізаваны ініцыятывай „Беларуская нацыянальная памяць”.

**Радыё Рацыя**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вайсковы тытул у Асманскай імперыі = 5 _ 21 _ 13 _;
2. складны паўкруг з лёгкіх пласцінак для абмахвання ў духату = 14 _ 24 _ 20 _ 22 _;
3. дзяржава з Гаванай = 12 _ 15 _ 2 _ 1 _;
4. клоўн, блазен = 11 _ 10 _ 3 _ 4 _;
5. Павел, беларускі фалькларыст і этнограф (1826-1900) = 16 _ 17 _ 18 _ 19 _;
6. горад у Люксембургу = 23 _ 9 _;
7. сібірская рака, уліваецца ў мора Лапцевых = 8 _ 6 _ 7 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | 19 | 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Ручнік, пяршак, сто, жыгала, пажар, Ажэшка, зрэнка, чай, бяда.

Рашэнне: **Чужая жонка прыгажэйшая**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 09.11 — 15.11

**(22.03. — 20.04.)** Будзь напагатове і не паддайся эмоцыям. Хтосьці несумленны на гарызонце! Нядобры час на вырашэнні маёмасных спраў (8-12.11). 11-15.11. неспадзяваныя, раптоўныя здарэнні і складанасці; трымайся моцна свайго шляху і не ўсчынай скандалаў, бо можаш шмат страціць!

**(21.04. — 21.05.)** Вакол цябе шмат зычлівых людзей, не вагайся папрасіць у іх падтрымкі і дапамогі. 8-11.11. хтосьці схоча выкарыстаць тваю наіўнасць; пільнуй сваіх інтарэсаў. 11-15.11. пройдзеш нялёгкі тэст тваіх пачуццёвых адносін.

**(22.05. — 22.06.)** Рэгенеруйся. Будзеш моцны псіхічна і фізічна, хіба што адновяцца старыя нямогласці са страўнікам. На працы можа без асаблівага задавальнення, але будзеш дакладны, трывалы і паспяховы. Можаш цяпер (10-14.11.) рушыць з новым праектам — інтуіцыя і ўява акажуцца ключом да поспеху. Плыві з цячэннем падзей, а справы складуцца найлепш.

**(23.06. — 23.07.)** Час на новы пачатак у пары. Малы перападлік ажывіць вашы пачуцці і зашморгне вязі. Але 11-15.11. шыкуецца немалая сварка, асабліва ў старой пары; не скачы да вачэй партнёру! Больш аддай увагі і дзецям. Самотнаму Раку зоркі могуць прынесці гарачую сувязь або распальваючае знаёмства. Прафесійныя поспехі, але добра дагаворвайся з супрацоўнікамі. 9-13.11. хтось кіне табе калоды пад ногі; кожны свой рух абдумай тры разы.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш жыццярадасны, жвавы (Ільвам з трэцяй дэкады падакучаюць пазваночнік і жывот). Станеш у пачуццях перад неабходнасцю сур'ёзных жыццёвых рашэнняў і выбараў. Усё справы кансультуй з партнёрам. Магчымыя непаразуменні з бацькамі і дзецьмі; першы працягні руку на згоду. 9-13.11. адпачывай.

**(24.08. — 23.09.)** Можаш закахацца, і ўзаемна. У пары не павінна быць канфліктаў. Але на гарызонце можа паявіцца асоба, якая ўжо цябе пакрыўдзіла і якая схоча гэта зрабіць яшчэ раз. Мяркуй, што каму гаворыш. Таксама пільнуй грошай, не выдавай іх на абы-што, бо неўзабаве спатрэбяцца.

**(24.09. — 23.10.)** Можа выбухнуць у пары 11-15.11.; цяжка будзе паяднацца і палагодзіць. Дома ўсё на тваёй галаве; калі ты гэтага не зробіш, дык ніхто, але не дазволь, каб да гэтага хатнія прывыклі. 9-10.11. будзеш наракаць на страўнік. Можаш затое атрымаць цікавыя прапановы з работай. 11-15.11. — добрыя дні на пачатак ашчаджвання; цяпер маеш шанцы на сапраўды вялікія прыбыткі. 11-15.11. хтосьці спрабуе табе кідаць калоды пад ногі; цяпер не выходзь перад шэраг.

**(24.10. — 22.11.)** 9-13.11. атрымаеш вельмі добрыя весткі ад далейшай сям'і. Трэба будзе моцна схіліцца над іхнімі праблемамі. 10-14.11. мацней набліжыся да дзяцей. З 9.11 (аж да 28.11.) лёгка пазбудзешся кепскіх звычак, будзеш дысцыплінаваны і цярплівы. 14-15.11. — добры час на бізнесавыя прыёмы і нялёгкія размовы — удалыя. 9-13.11. не злоўжывай сваёй сілай.

**(23.11. — 22.12.)** Будзь асцярожны, не шалей і не рабі нічога неабачна. Але можаш досыць лёгка закончыць знішчальную, цяжкую сувязь. 9-13.11. не рызыкуй, бо можаш многа страціць, хаця і выйграць; не стаў усяго на адну пульку. Калі гэта добра разыграеш, чакае цябе час вялікіх інвестыцый і прыбыткаў. 12-16.11. не перацані сваіх магчымасцей; можаш не даць рады аформіць нічога, што патрабуе высілку і ахвярнасці.

**(23.12. — 20.01.)** Гармонія, грошы, шчасце, развой кар'еры. Гучыць гэта як у казцы, але не дзейнічай у адзіночку. 9-13.11. пазнаеш кагосьці, хто будзе мець уплыў на тваё жыццё, пазітыўны ці не — залежыць ад цябе. Асабліва Казярогі з 1-6.01. павінны ісці сваёй дарогай і рабіць тое, што дыктуе ім розум. 9-11.11. будзь вельмі асцярожным, але варта цяпер шукаць добрую працу або рыхтаваць падставы пад будучае павышэнне.

**(21.01. — 19.02.)** Адазвецца твая натура адкрывальніка і наватара. Уводзь у жыццё новыя ідэі. Але пазбягай неабдуманых рашэнняў, бо будуць цябе шмат каштаваць. З 13.11. адчуеш, што з найбліжэйшай асобай лучыць цябе штосьці асаблівае.

**(20.02. — 21.03.)** Узмоцніцца твая сувязь у пары. Знакаміты час на ўсялякія, нават досыць рызыкоўныя фінансавыя аперацыі. Неасабліва захапляйся новым, прыцягальным — яно неабавязкова добрае. Старайся не пераборшчваць з салодкім. Змены ў прафесійным жыцці, але не турбуйся. Можаш яшчэ вярнуцца да старых мараў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2015 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Украіна ў цяні вайны (8)



Карпацкі пасёлак Ярэмчэ ў пэўнай меры можна параўнаць з Закапаным.

Трапілі мы туды нейкім цудам, быццам хто нас суправаджаў. Гэта атрымалася само па сабе, а больш дакладна па прычыне пэўных сантыментаў. З Каламыі мы маглі паехаць куды заўгодна: на поўнач, на захад, на поўдзень. Але ж тут пад'ехала маршрутка, адчыніліся дзверы, а пасля выглянуў „знаёмы” персанаж. Сваёй знешнасцю ён кропля ў кроплю напамінаў паэта Анатоля Сыса ў маладыя гады. Мы зразумелі, што такі шафёр не завязе пад дурнога хату. Ды і ён сам пераняўся нашай нерашучасцю і адсутнасцю планаў:

— А куды вам трэба ехаць? — спытаў ён.

— Нам трэба такі пасёлак, — адказалі мы на ляту, — каб адтуль пасля было лёгка з'ехаць!

— Вы не маглі патрапіць лепш, — адказаў наш „Анатоль”, — я менавіта і еду ў такі пасёлак.

Канчаткова пра наш выбар вырашыла адна дэталь: на пярэдняй сцэнцы салона, дзе звычайна ўкраінскія шафёры ставяць іконкі і святыя абярэгі, тут красаваўся партрэт Тараса Шаўчэнкі.

* * *

Падарожжа з Каламыі ў карпацкае Ярэмчэ доўжылася мо з дзве гадзіны, хоць лепш сказаць, што яно праляцела як у трансе, па-за часам і прасторай. Відаць, з-за добрага сэрца шафёр набраў у тры разы больш пасажыраў, чым дазвалялі законы. Найбольш уражвала адсутнасць бунту; украінцы ж паказалі, што як ніякі народ у Еўропе патрапяць змагацца за грамадскія справы. А тут — быццам хто зачараваў! Ні аднаго голасу супраціву. Наадварот, у салоне панавала зразуменне і зычлівасць. Мы самі саступілі месцы старэйшым цёткам, каб абівацца на выбоінах і падаць у час рэзкіх тармажэнняў на тых, што таўкліся спераду або выстойвалі ззаду. Замест слоў прабачэння хапіла ўсмешка, або жэст рукой з недасказаным: *Нічога, нічога! Усё на месцы...*

Папраўдзе, на першым месцы тут была народная песня, якую шафёр паставіў на ўсю моц, і гэта ўнушала атмасферу свята і шчасця. Пад яе ўплывам адны мроілі з прыжмуранымі вачыма, іншыя драмалі або кудысьці тэлефанавалі. Я сама пачала думаць пра падляшскі канцэрт пажаданняў — у маршрутцы, як у час беларускай радыёперадачы, усе ўсіх любілі і віталі, усё ўсім падабалася, і як у нас — усе хвалілі вядучага, значыць шафёра за чароўныя песні. Рэпертуар таксама выглядаў знаёма: „Ты казала што ў сэрэду...”, „Коло рэчкі, коло броду”, „Раздва-тры каліна”, „Дывчына гарна, дывчына пышна”, „Чырвону руту, нэ шукай вэчорамі”, „Чом ты нэ прышоў”, „Сорочку білу вышыю шоўком”...

Падобны рэпертуар пускалі ў маршрутках напярэдадні Аранжавай рэвалюцыі 2004 года. Таму, хоць на ўсходзе краіны ішла сапраўдная вайна, хацелася думаць пра аднаўленне краіны.

Калі мы ўязджалі ў Ярэмчэ, якраз з магнітафона грымнула мадыфікаваная пад уплывам вайны „На горы сонца загарае, там чорны воран закракаў...”.

Такім чароўным чынам мы скінулі з сябе поўную абяздоленасць, і зноў ступілі на зямлю.

* * *

Ярэмчэ адразу зачаравала сваёй прыгажосцю. Наколькі ў Каламыі мы натыкаліся на сляды еўрапейскіх метраполій, тут прыгадаўся еўрапейскі ландшафт. Тамашні горны масіў Чарнагорыя шмат у чым напамінаў Альпы, асабліва ўначы і на світанні. Тут, як у раскошных курортах Швейцарыі, чаравалі электронныя рэкламы. То-бок — адна рэклама. Сваёй назойлівасцю яна перабівала ўсе цуды Швейцарыі. І галоўнае: абяцала роскаш. Спачатку нас здзіўляла супярэчнасць пачуццяў. Тыя самыя ўкраінцы, якія заўзята байкатавалі расейскія прадукты, горача намаўлялі, каб скаштаваць страсную звычку „новых рускіх” і схадзіць у баню. Такая прапанова неабавязкова значыла санітарныя паслугі. Хутчэй за ўсё, гэта была крыптапрапанова з галіны секстурызму.

Мы не паспелі адысці і пяць метраў ад вакзала, як нехта злавіў за рукаў і ўжо цягнуў у нейкі пансіянат:

— Дзяўчаты, давайце са мной! У нас найлепшая баня!

— Дзякуем, мы толькі што сышлі з саўны, — патлумачылі мы ветліва.

— Як жа сышлі? Вы ж толькі прыехалі? — не хаваў здзіўлення вярбоўшчык.

— Няма лепшай бані за ўкраінскую маршрутку...

— А ну вас! — адказаў ён з шырокай усмешкай. І замест намаўляць да граху, з ходу накіраваў да канкурэнцыі, да гаспадароў дзе „ўсё як трэба”, значыць, няма саўны!

* * *

Нам не прыйшлося доўга шукаць прыгожага пансіяната. З кожнага кутка і вулачкі тут запрашалі на начлег. Яшчэ больш шакіравалі разнавідныя цэны за паслугі. У адным месцы, дзядзька быў гатовы пераначаваць за






сорак грывень — гэта тры долары. У мадэрных гасцініцах (зразумела, з саўнай) трэба заплаціць у сто разоў больш. Нас цягнула ў паэтычны бок. Карацей, мы пайшлі следам песень, пачутых у маршрутцы, у пансіянат „Біля рычкі” (*Біля рычкі, біля броду, дывчына стоїт...*).

— А я ўжо гасціў журналістаў з Беластока, — здзівіўся ў сваю чаргу Анатоль. Мы не сумняваліся што нашыя папярэднікі трапілі такім жа эстэтычным шляхам, што і мы.

Так, у Анатоля ўсё было найпрыгажэйшае. Перад вілай замест саўны стаяў грыль пад дашкам, там завіхаліся стройныя сыны гаспадара. Яны ўвесь час нешта парадкавалі, прыбівалі. Усярэдзіне прыгожа лунаці пахі ад кухні, гаспадыня якраз рыхтавала духмяную вячэру для сваёй сямейкі. З нашай кватэры распасціралася не менш чароўная панарама Карпат, якую ажыўляў шум Прута. Гэтая найпрыгажэйшая карпацкая рэчка, як абяцаў назоў пансіяната, плыла ля самага дома. Нам спадабалася прыгожая цана, за начлег мы заплацілі толькі дзевяць доляраў ад асобы.

Сам Анатоль не выглядаў на шчаслівага. Наадварот, ён як і многія ўласнікі пансіянатаў, паціху лічыў страты нанесеныя вайной. З-за рэзкага зніжэння вартасці грыўны цана турыстычных паслуг падала з дня на дзень.

— Год таму тут было пяць разоў больш народу, — патлумачыў.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



ISSN 0546-1960